
Забава на Ганну→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Жніва ў Ялоўцы→8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 34 (3093) Год LX Беласток, 23 жніўня 2015 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




■ Вяскоўцы абураныя прафанацыяй

# Прафанацыя крыніцы

Не ведаю, што мне прарочыў мой гараскоп на пятніцу 13 жніўня. Але, мабыць, гэтае супадзенне пятніцы з трынаццаткай мае нейкі метафізічны сэнс. Вось жа ў той дзень адправіўся я ў Мякішы не просценька з Крывой, з поўдня, але прайшоўся праз Локніцу і кіраваўся ў Мякішы ад усходу. Паказалася ўжо вёска, калі насупраць мяне з'явілася легкавушка, завярнулася перада мною і спынілася каля даволі новага металічнага крыжа. Чалавек выйшаў з машыны і з чатырма пяцілітровымі пластмасавымі бутэлькамі нырнуў у лес зараз за згаданым крыжам. І зараз раздаўся адтуль крык гневу...

— Тут крыніца, да яе былі палеты (драўляныя паддоннікі) выкладзены і быў бетонны круг. А ад дарогі была высыпана дарожка. На дрэвах віселі іконкі. Быў кубачак, можна было напіцца. А зараз нічога няма, пуста. Хтось тут усё пабіў. А яшчэ нядаўна было, — кажа Адам Весялоўскі, родам з Пасынак, які штотыдня прыязджае сюды набіраць ваду.

Крыху далей знаходзяцца кускі палетаў, кавалкі цэментнага круга, друз ад паламанага бетоннага крыжа. Пад'язджае чарговая легкавушка. Вадзіцель цікавіцца:

— А што сталася?

— Разваліў! — адказвае спадар Весялоўскі.

— Хто?

— Гавораць што Катэльчук.

Цікаўлюся, хто гэта.

— Нібыта яго гэты кусок. У Бельску жыве, але ён сам родам адсюль, з Мякіш.

— А я прывёз здымкі, бо званіла солтыс каб прывезці здымкі, якія я раней тут зрабіў, бо тут мае быць рэдактар з „Бельскіх навін".

Мужчыны прапануюць паклікаць солтыс, якая больш расказала б пра сітуацыю.

— Ён біў не першы ўжо раз. А сюды шмат людзей па ваду прыязджала, штодзённа — Фёдар Сахарчук, родам з Локніцы, паказвае мне зафіксаваныя раней здымкі. — Такой крынічкі тут вакол нідзе няма. Аздараўленні тут былі. Я тут быў у нядзелю рана, зрабіў крыху здымкаў. А неўзабаве звоняць мне, што ўсё ўжо разбіта, у аўторак хіба разбіў.

Далучаецца жанчына, з Трашчаткой: — Так файне было зроблена. Я яшчэ набрала вады, дзве пяцёркі, а пасля яшчэ раз дзве пяцёркі ў машыну набрала. Катэльчук быў, я спытала яго: „Вы прыехалі па ваду?" — „Ja właściciel jestem", адказаў.

З'яўляюцца чарговыя людзі: — Калісь тут была вялікая крыніца. У Кожыне млын быў і млынар два разы чысціў тут пры санацыі, работнікаў прывозіў. Я пытаў яго, дзеля чаго ён такое робіць. А ён казаў, што яму крыніца дае больш карысці чым ваша рака. Тут вялікая яма была, але, мабыць, калі дарогу тут рабілі, то і завалілі тую яму. Тут, як калёніі рабілі, то далі таму гэты кавалак альшыны.

— Крыніца тая выглядае цяпер як калюжына, але вада з яе чыстая.

— Бацюшка прывёз круг і так зрабілі, што і кран уставілі і вада прыгожа лілася, і крыжык зверху быў; было зроблена дбайна.

— І маліліся тут, пры крыніцы, і сёлета маліліся.

— Колькі сюды аўтамабіляў прыязджала, штодзённа, нават з Беластока!

— Было адзінаццаць ікон.

— Такі ўчынак недапушчальны! Дзе сумленне ў таго чалавека?

Радны Ян Кавальчук: — Гэтая крыніца тут з дзеда-прадзеда. Мы да гэтага ўласніка, Катэльчука Мікалая, ездзілі ўдваіх з Семенюком у Бельск, там ён фірму мае, на Ліповай, за шпіталем, там самаходы падбівае. І просім, каб даў нам дазвол паставіць тут каплічку. „Не, я не буду даваць, бо яшчэ пяці гадоў не мінула, як брат на мяне перапісаў. Але рабіце што хочаце".



■ Друз ад вясковага крыжа



■ Тут віселі іконы

Солтыс Мякіш, Ніна Кавальчук: — Яшчэ пыталіся, ці крыж можна паставіць, а ён адказаў, што крыж сам паставіць.

Ян Кавальчук: — Я бацюшку папрасіў, бацюшка Яўген Сушч прывёз новую бочку, бо старая была вышчэрблена, і мы ўтраіх, вось з жонкай і братам, увосень вынялі старую баню і ўставілі новую. І трубку ўставілі металічную. І людзям гэта спадабалася. Прыехаў уласнік, ударыў тую трубку, яна лопнула, то адзін з Локніцы хіба з паўдня тут працаваў, каб тую трубку наладзіць.

Ніна Кавальчук: — І іконы сталі вешаць і ўпрыгожваць, то прыехаў і забраў тыя іконы. Калі б на маім полі было такое месца, то я ганарылася б, што ў мяне такое месца. „Świątynię zrobili", кажа, а я адказваю, што цяпер людзі бяду прадчуваюць, то і святыні стаўляюць. А тут жа сіла Божая. „А я прыеду і завалю". Ці ж табе вады шкада? — пытаю. І ўсё наша, што мы сюды прынеслі, забраў: спачатку іконы, а пасля і рэшту. Пабіў крыж, якому больш за сто гадоў.

Ян Кавальчук: — Я выклікаў паліцыю. Прыехаў учора ўчастковы. Кажу яму: „Крыж пабіты; ці ж так можна крыж біць?" — „А ён на сваім што хоча, тое можа і рабіць". Кажу, што адзін круг ляжаў на дарозе, не на ягоным грунце. Ён разгубіўся і мне кажа, што забыўся бланкі ўзяць. І сёння меў прыехаць з тымі бланкамі, у восем раніцы. Я чакаю, ужо дванаццатая даходзіць, а яго няма — так вязе тыя бланкі. А да таго ж вада з гэтай крыніцы мае гаючыя ўласнасці; хай мая мама скажа...

Марыя Кавальчук: — Як я нарадзіла дзіцца, то мне, не ведаю ад чаго, абсыпала цыцку. Па дахтарах я ездзіла, і ніхто не рабіла: і лісце прыкладала, і засыпала — нічога не памагала. Хтось мне сказаў, каб пайсці да золаку і прынесці вады з гэтай крыніцы. Я папрасіла суседа, ён прынёс мне ваду, я два-тры разы абмыла і цыцка мне загоілася. Так было.

Андраюк: — У мяне на правай сківіцы расла такая пухліна. І я гэтаю вадою прамыў тую нарасць — і прапала. А яшчэ да гэтага чуў, што тут была паказалася Маці Божая і вада гэтая панавала. Пакуль жыдоўка не скупала тут сабакі, тады перастала. Але надалей пануе. І людзі сюды па ваду ехалі, нават з Бельска сюды роварам прыязджалі. А яму было шкада. Як можна такую пакасць зрабіць! Сумлення ў яго няма, бо калі б было сумленне, то спачуваў бы людзям. Дарэчы, гэты кавалак грунту то мярнічы даў яму з нашага, пакрысе ад кожнага забраў, бо ў яго мала зямлі было. А не падумалі раней, каб гэты кавалак выдзеліць для грамадскага карыстання. Так тут прыхожа было зроблена, вада з трубкі лілася, падставіш пяцілітровую бутэльку і ўмомант яна поўная.

— А цяпер кругі забраў, і іконы забраў, казаў: „Będę wam na podwórka rozrzucać".

— Ці ж можна біць крыж, які тут здавёндаўна стаяў? То ж не на галаве яму стаяў. Людзям вады пашкадаваў.

— Як быў абыход, то бацюшка абыходзіў палі, свяціў дабытак, а пасля асвячаў і гэтую крыніцу.

— Хай сабе гэта, але біць крыж, які тут больш ста гадоў стаіць? То ж гэта рэлігійны сімвал, якога нельга нішчыць. Нават калі б ён стаяў у яго на панадворку, то нельга! А тут вось што!

Вольга Кавальчук: — Мярнічы быў разумны, чалавек добры, старэйшы кавалер. Калі прыязджаў, то заўсёды цікавіўся: „Nu, gospośu, co mówili na mnie? Чы мяне судзілі?". Бо тут жанчыны заўсёды на пасядзелкі сходзіліся. А я адказвала, што ўсе яго хвалілі. Чалавек быў добры, а атрымалася невядома што. Той Коля Катэльчук казаў яму: „У мяне сыноў тры і дачка". Поля мала ў яго было, можа тры гектары. І казаў: „Як даеш калёніі, то мне крыху прыкінь дзе". А я кажу мярнічаму, каб нідзе не браць, толькі ад нас, бо ў нас было дванаццаць гектараў. Чалавек мой быў слабы, хворы, цешчы было за семдзесят гадоў, сярпамі жалі — цяжка было. Ты, кажу, ад нас вазьмі — я так тае зямлі не хацела. Ён не надта хацеў такое рабіць, але гаварыў, што недзе астаецца непатрэбнае, то ад кожнага па адзіначцы адкіне, а было ж у вёсцы семдзесят гаспадароў. І так яму даў. І ён ужо тое стаў гарадзіць, брамкі стаўляць, дрот калючы зацягаць, каб людзі не ішлі, бо там, каля крыніцы такая сцяжынка была далей. Людзі ідуць, а яны гарадзяць і сварацца. Я праходзіла тудою і спыталася: „Што віетэ робітэ? Нашто віетэ городітэ?" — „Коб не ходілі", адказала яго жонка. Не гарадзіце, адказваю, бо то ж не ваша. Бо ж мернічы казаў, што ён такія рэшткі, якую сажалку ці пясок, пазбіраў і так вам даў. То яны зазлавалі, пакінулі тое і пайшлі. То ж чужое гарадзілі! А цяпер вось, з крыніцаю бяда.

Выпадала мне было пацікавіцца, як да справы ставіцца мясцовы орган, значыць праўленне Бельскай гміны. Аднак не хацеў я ставіць войт Раісу Раецкую ў няёмкую сітуацыю. Бо тут справа далікатная: як сказалі мне вяскоўцы, Катэльчук з'яўляецца ейным сямейнікам. І, мабыць, ён упэўнены, што яна сыграе ў справе такую ролю, як *Ojciec Chrzestny* ў сем'ях сіцылійскіх імігрантаў у ЗША. Што запэўніць яму *крышу*; дарэчы, *kryje* ўжо яго пакрысе бельская паліцыя...

А сам віноўнік вандалізму, мабыць, вырваўшыся з вёскі ў горад, пачуўся вялікім панам. І паводзіць сябе паводле польскай пагаворкі: „Wpuść chłopa do biura, to atrament wypije"...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**





# Закон сістэмы

Няслушна некаторыя кваліфікуюць грамадска-палітычную сітуацыю ў Беларусі як нейкае падабенства брэжнеўскага „застою”. Няма ў нас ніякага застою, сітуацыя няўхільна развіваецца, праўда, зусім не ў той бок, як хацелася б усім, хто жадае бачыць нашу краіну як дэмакратычную, заможную і па-сапраўднаму незалежную. Пачынаючы з вясны 1995 года — а гэта значыць, што цягам ужо больш дваццаці гадоў ідзе выбудоўванне па ўсіх кірунках класічнай таталітарнай мадэлі дзяржавы. Прычым сітуацыя не стаіць на месцы.

У сённяшняй Беларусі ніводзін чалавек не можа пачувацца бяспечна, быць упэўненым, як кажуць, у заўтрашнім дні, мець нейкія гарантыі. Арышты мінулага тыдня толькі пацвердзілі агульныя тэндэнцыі ў нашай дзяржаве. У Мінску ў адзін дзень людзі ў чорнай форме і непрабівальнымі шлемамі з аўтаматамі ўварваліся ў тры розныя кватэры. Думаеце, што затрымлівалі нейкіх забойцаў-рэцыдывістаў, ці можа наркабаронаў? Не туды тое. Так хапалі звычайных маладых хлопцаў, якіх падазраюць усяго толькі ў беларускамоўных графіці. Маладых людзей гэтыя „гарылы” адразу паклалі на падлогу, здзекаваліся, білі, катавалі электрашокерамі, аднаму нават зламалі сківіцу. Людзі нават не разумелі ў чым іх вінавацяць, а сілавікі незаконна і, як яны думаюць, беспакарана, збівалі сваіх суграмадзян. Потым прайшла серыя ператрусаў у памяшканнях, прычым нават у кватэрах бацькоў падазраваных. Яшчэ невядома, ці сапраўды менавіта гэтыя хлопцы рабілі надпісы, але ўжо можна з сумам прагназаваць, што з пяці затрыманых некалькі будзе засуджана да рэальнага тэрмінага зняволення. Заканадаўства гэта прадугледжвае, ды і следчыя, даруйце за горкі іранічны каламбур, папрацуюць як след. А з-за чаго такая рэакцыя? Самае страшнае злачынства тых, хто пісаў на сценах, для ўлады канешне графіці з тэкстам „Беларусь мае быць беларускай!”. У крымінальнай справе фігуруюць і іншыя эпізоды, але, напэўна, менавіта гэты „экстрэмісцкі” лозунг выклікаў такую неадэкватную рэакцыю спецслужбаў.

Ці ты звычайны інжынер, ці кандыдат у прэзідэнты, ці паспяховы прадпрымальнік, ці калекцыянер антыкварыяту, ці грамадскі актывіст, ці дзяржаўны чыноўнік — у цябе няма ніякай гарантыі, што ты заўтра не будзеш збэшчаны, арыштаваны, рэпрэсаваны ў розны спосаб. Прычым зусім няважна — парушаў ты закон ці не. У цябе няма ніякіх гарантый ні на што. Вось гэта і ёсць асноўны закон сістэмы.

Прайшло пару дзён і медыйную прастору Беларусі скалануў факт іншага затрымання. Быў арыштаваны генеральны менеджар мінскага хакейнага „Дынама”, вядомы ў мінулым журналіст і шматгадовы рэдактар папулярнай спартовай газеты „Прессбол” Уладзімір Беражкоў. Вось так. Сёння звольнілі з працы — заўтра надзелі наручнікі. Менавіта з яго працай і імем звязваліся пэўныя поспехі хакейнай каманды, якая да прыходу новага менеджара сядзела „ў балоце”. Было паведамлена, што Беражкова падазраюць у раскраданні сумы памерам каля 2 800 долараў. Усё гэта смешна, бо заробак генеральнага менеджара быў як мінімум у два разы большы. Але не смешна — калі паглядзець заканадаўства. Паводле артыкула Крымінальнага кодэкса Уладзіміру Беражкову можа пагражаць пазбаўленне волі на тэрмін ад трох да дзесяці гадоў з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады ці займацца пэўнай дзейнасцю. Калегі і ўсе сябры па колішнім журналісцкім цэху характарызуюць Беражкова як выключна сумленнага і прынцыповага чалавека. Мяркую, што яго неўзабаве ўсё ж выпусцяць з-пад варты. Для сістэмы больш важна было вызваліць чарговае, як ім здаецца, цёплае месца для нейкага чарговага „чорнага палкоўніка”. Бяда ж такіх як Беражкоў у тым, што яны не разумеюць, што быць побач з сістэмай і мець магчымасць творча і плённа працаваць — несумяшчальна. Асноўны закон сістэмы — альбо ты працуеш у сістэме, альбо яна цябе выпліне ці з'есць. Праўда, на гэтым яна не спыняецца і далей жарэ ўжо сваіх, але тыя, што ствараюць такую сістэму, не хочуць памятаць гісторыі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Што (з)рабіць



Гэта адбылося ў апошнія мінулагоднія школьныя дні... Патэлефанавала мне сяброўка з Варшавы з драматычным пытаннем: што рабіць? Улічваючы, што тое ж пытанне, таксама загаловак вядомага маніфесту аднойчы пастаўленага таварышам-бальшавікам Уладзімірам Леніным, я нахіліўся над ім з увагай і павагай. Вось сяброўчына дачка-падлетак вярнулася ў пятніцу са школы і сказала ёй, што ў выхадныя арганізуе імяніны-імпрэзку, на якую запрасіла ўсіх аднакласнікаў. Гэта ўсяго толькі каля 30 чалавек. Але гэта не праблема, што кватэра маленькая, таму што сустрэча адбудзецца ў Макдональдсе. Гэта новая вучнёўская традыцыя. Акрамя таго, яна таксама запрашае ўсіх вучняў з паралельных класаў. Але гэта таксама не праблема, таму што ў навакольным Макдональдсе можа змясціцца да 300 чалавек. Мая сяброўка ўжо і так напалоханая бессэнсоўнай экстравагантнасцю дачкі, палічыўшы хутка, што можна чакаць не менш чым 150 гасцей, звалілася ў паніку. Не слухаючы больш тлумачэнняў дачкі, выбегла з хаты. Вядома, яна забылася захапіць у руку мабільнік. У цяперашні час можаш забыцца пра ўсё: пра ключы, пра кіпячае малако на пліце, пра дзіця, пакінутае ў дзіцячым садку; можаш нават забыць сваё імя. Але забыцца аб мабільніку нельга ў любым выпадку! Яго самыя заўзятыя аматары не расстаюцца з ім, нават ідучы ў туалет. Дзеці ставяцца да сваіх шыкоўных айфонаў або іншых плэераў як да найбольш прывабных прытулянак, без якіх ім не заснуць. Будучы нядаўна госцем у аднаго сужонства, быў я відавочцам, як муж, не перарываючы размовы са мною ў салоне, у той час слаў эсэмэскі жонцы, якая рыхтавала нам вячэру на кухні. Ён паведамляў ёй пра тое, што мы гаворым. У той час яго жонка распытвала мужа тэкставым паведамленнем, ці мы з'ямо салат з памідорамі, ці з агуркамі. Асабіста я аддаю перавагу памідорам, адказаў я з належнай сур'ёзнасцю. А я аддаю перавагу агуркам, буркнуў муж і паслаў жонцы тэкставае паведамленне: «Падрыхтуй такі і такі».

Вяртаючыся да маёй сяброўкі, калі імчалася ўсляпую па вуліцах Варшавы, лічыўшы ў памяці незапланаваныя выдаткі на імяніны дачкі, механічна набрала тэлефонны нумар да мужа, каб задаць яму драматычнае пытанне: «Што рабіць?» Пазней высветлілася, што ў той час у яго была важная сустрэча, так што выключыў мабільны тэлефон. Тады яна патэлефанавала сваёй маці, да смерці забыўшыся, што старэйшая жанчына ўпарта застаецца вернай стацыянарнаму тэлефону, і любіць пасля поўдня пашпацыраваць праз гарадскі парк, і ні ў якім выпадку не зможа падняць трубкі тэлефона ў сваёй кватэры і дапамагчы дачцэ добрай парадай. Пытанне «Што рабіць?» дасягнула драматычнага дна. Накармленне 150 непаўналетніх галадамораў, лёгка лічачы гэта кошт 3 тысяч злотых. Адмовіцца ад запрашэння без абразы немагчыма. Гэта ж пятніца. Акрамя таго, гэта падарве ўсё яшчэ кволы прэстыж безразважнай дачкі. А вядома, што беспардонныя дзеці могуць пайсці вельмі далёка ў жорсткасці, калі хтосьці іх абмане. «Што рабіць? Што рабіць?» — думала ўсё ў большым адчаі мая сяброўка, ціснуўшы чарговыя нумары сяброўскіх тэлефонаў. Трапілася так, што ўсе з іх былі занятыя — паводле іх — больш важнымі пытаннямі. У рэшце рэшт, злітаваўся над ёю мой сотавы тэлефон. — Хм... — адказаў я ад яго імя, разважыўшы што і як, але не губляючы поля ўвагі вядомага ленінскага пытання, на якое ніхто, нават сам Ленін, а нават ягоныя таварышы-бальшавікі не чакалі ад нікога ды ніколі адказу. Яны проста зрабілі тое, што хацелі. Іншая справа, што толькі па-свойму, не думаючы пра ўсіх астатніх. Але гэта ўжо іншая гісторыя. Што тычыцца маёй сяброўкі, я параіў ёй, каб высветліла ў сваёй дачкі, колькі яе калег на самой справе прыйдзе на тыя імяніны. А прыйшлі толькі дзве сяброўкі і смяротэльна закаханы ў дачку з іх калега. Астатнюю частку гасцей складалі сябры са старэйшага класа. Але і так кожны плаціў сам за сябе. Таму што цяпер такая традыцыя. Маю надзею, што чытачы зразумеюць тое, што я не пастаўлюся да маёй сяброўкі з крытычнай ацэнкай ці нейкім асуджэннем. Калі я гляджу на ўсё больш і больш забытыя лавачкі, не толькі ў маёй вёсцы, дзе калісьці размаўлялі сусед з суседам як чалавек з чалавекам, а не як тэлефон з тэлефонам, мне цікава, ці гэта ўжо новая традыцыя, ці незваротна памірае тая мінулая. Мая традыцыя, мабыць архаічная, але самая прыгожая — традыцыя сустрэч з людзьмі, іх прагнае слуханне гісторый аб чалавечай салідарнасці і ўзаемнай эмпатыі. Але і аб прамінаючых сварках і вялікай згодзе. Эх, было, мінула. Што (з)рабіць?!

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма эўрапейца

# Кандыдаты

Як дасюль, найбольшым сюрпрызам перад восеньскімі парламенцкімі выбарамі (25 кастрычніка) з'яўляецца ўдзел у выбарах у Сенат са спіса падляшскай структуры Грамадзянскай платформы войта Арлянскай гміны Пятра Сэльвесюка, а таксама кандыдатура ў Сейм на спіску гэтай партыі (апошняе месца) сына былога прэм'ер-міністра, сенатара мінаючага склікання Владзімежа Цімашэвіча — Тамаша. Не меншай нечаканасцю з'яўляецца адсутнасць на ім цяперашняга дэпутата ад Платформы Аляксандра Сасны і выстаўленне на пятай пазіцыі Адама Мусюка — прадстаўніка блізкага да царквы Форуму меншасцей Падляшша (ФМП), які з'яўляецца кааліцыянтам ГП.

Пётр Сэльвесюк (39 гадоў, войт Арлянскай гміны) не належыць ні да якой палітычнай партыі. Будзе балатавацца ў аднамандатнай паўднёвай акрузе (№ 61), г.зв. меншасной, адкуль цяпер сенатарам з'яўляецца Владзімеж Цімашэвіч, які заявіў, што не будзе кандыдатам на восеньскіх выбарах. Роберт Тышкевіч, старшыня Падляшскага рэгіёна ГП: «Мы разлічваем на падтрымку Пятра Сэльвесюка з боку ПСЛ у гэтай акрузе, падобна як мы падтрымліваем кандыдата ад ПСЛ у Сенат у паўночнай акрузе».

Сам кандыдат, вызначаючы сябе прадстаўніком меншасцей і мясцовых самаўрадаў, у першых выказваннях пасля згоды стаць кандыдатам заявіў: «Наш рэгіён разнастайны ў нацыянальным і рэлігійным плане. Патрэбны чалавек, які будзе абʼядноўваць усіх жыхароў».

Яго прыярытэтамі ў сенатарскай працы маюць быць эканамічнае развіццё ўсходняй часткі краіны, прадстаўленне праблемаў меншасцей і паляпшэнне супрацоўніцтва мясцовых органаў улады і ўрада.

Раней гаварылася, што са спіска ГП у Сенат будзе балатавацца дэпутат Яўген Чыквін. У размове са мной ён нават пацвердзіў, што такую прапанову атрымаў ад ФМП (ад імя ГП). Канчаткова мае быць кандыдатам СЛД у Сейм са спіска падляшскай Аб'яднанай лявіцы (такую выбарчую кааліцыю СЛД наладзіла з Тваім рухам, Уніяй працы, Зялёнымі і іншымі дробнымі левымі групоўкамі). На момант пісання гэтага тэксту працягваліся вызначэнні, з якога месца будзе ён балатавацца, а ў кааліцыі на цэнтральным узроўні таксама не было аднадумства на тэму чарговасці месц кандыдатаў ад паасобных кааліцыйных груповак. Згодна парытэтам Аб'яднанай лявіцы, Твой рух на Падляшшы меў мець кандыдата на другім месцы выбарчага спіска. Усё паказвала на тое, што Яўген Чыквін будзе на трэцім. Узначаліць спісак кіраўнік падляшскіх структур СЛД Кшыштаф Біль-Ярузельскі.

Затое расчараванне фактам, што ГП не паставіла яго на свайм спіску ў Сейм, не хавае Аляксандр Сасна: «Грамадзянская платформа прапанавала мне балатавацца ў Сенат, але я не хачу». Неафіцыйна гаварылася, што як кандыдат са спіска ГП у Сейм ён не атрымаў падтрымкі царкоўнай іерархіі: «Прапанавалі мне балатавацца ў Сенат і Царква пагадзілася, а ў Сейм ужо не? — рытарычна пытаўся сам зацікаўлены. — Мне аб гэтым нічога невядома».

Ён прызнае, што атрымаў прапановы балатавацца ў Сейм ад іншых груповак, але сур'ёзна разглядае перамовы па гэтым пытанні з ПСЛ. «Незалежна ад таго, з якой пазіцыі буду балатавацца», — адзначае ў той жа час.

Народжаны ў Орлі Аляксандр Сасна атрымаў на папярэдніх выбарах дакладна 7 645 галасоў, але не адразу ўвайшоў у Сейм — быў першым за рысай 4 дэпутатаў ад ГП з Падляшша. Апынуўся ў парламенце толькі ў чэрвені мінулага года, калі замяніў Барбару Кудрыцкую, якая выйграла выбары ў Еўрапарламент. Быў дарадцам па справах рэлігійных і этнічных меншасцей прэзідэнта Бранislава Камароўскага, і раней намеснікам прэзідэнта горада Беластока.

Магчыма, балаціроўка значна больш вядомага чым Адам Мусюк у асяроддзі меншасцей Аляксандра Сасны са спіска ГП паставіла б пад пагрозу пазіцыю лідараў гэтага выбарчага спіска (па чарзе дэпутатаў Роберта Тышкевіча, Бажэны Камінскай, Дам'яна Рачкоўскага), а, у прыватнасці, першага ў спіску Роберта Тышкевіча пры вельмі нізкім рэйтынгу ГП у цяперашніх апытаннях (у гэты момант магла б яна ўзяць максімальна да трох мандатаў). На папярэдніх выбарах на Роберта Тышкевіча прагаласавалі дакладна 10 465 чалавек, але тая падтрымка ўпала, асабліва падчас кампаніі прэзідэнта Камароўскага, якую вёў Тышкевіч.

Вернемся да ПСЛ. Падляшскія структуры гэтай партыі на момант пісання гэтага тэксту выявілі кандыдатаў у Сенат і толькі некаторыя прозвішчы са свайго спіска ў Сейм. Адкрывае яго цяперашні лідар сялянскай партыі на Падляшшы і заадно маршалак ваяводства Мечыслаў Башко. На сеймавы спісак занесены таксама звязаны з беларускім асяроддзем Мікалай Яноўскі. Нагадаю, што ў парламент на Падляшшы выбіраем чатырнаццаць дэпутатаў і трох сенатараў. Да выбарчай тэмы вернемся праз тыдзень.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Забава на Ганну


«Калінка» з Залук

Калі я была маладая, у шасцідзясятыя гады, не толькі на Ганну, але амаль у кожную цёплую нядзелю ад старога моста непадалёк чуўся спеў жанчын. Яны спявалі па-беларуску, па-свойму, і дрэвы на пагорках разносілі гэты спеў па ўсім наваколлі. Іншыя жанчыны па вёсках тут спявалі на лавачках перад дамамі. Цяпер маладых тут амаль не засталося. Наехала шмат прыезджых. Ніхто не спявае, хіба што па сваіх хатах, — узгадвала ў размове з «Нівай» старажылка з Калоднага, чакаючы аўтобуса ў Беласток на аўтобусным прыпынку ў Каралёвым Мосце. З аддаленай ад яго ў некалькіх сотнях метраў спартыўнай пляцоўкі, паміж былой поштай і пачатковай школай, прададзенымі некалькі гадоў таму гмінным уладамі надляснічаму з Валіл Кшыштафу Бозіку (прыватна), ды былой амбулаторыяй, цяпер у іншых прыватных руках, далятаў да прыпынку гукі музыкі ў выкананні гуртоў, якія гулялі на «Забаве на Ганну».

Гэта было (7 жніўня) трэцяе і апошняе ў гэтым годзе мерапрыемства з цыкла забаваў у гарадоцкіх вёсках пры беларускай музыцы, арганізаваных Гмінным цэнтрам культуры ў Гарадку, на гэты раз узначальваным Юркам Астапчуком — новым дырэктарам і заадно лідарам гурта «Прымакі». Гэтым летам падобныя забавы праходзілі раней у Валілах-Дварах і Случанцы. У Каралёвым Мосце забава супала з прыхадскім святам у гонар праведнай Ганны і арганізаваным з гэтай нагоды фэстам.

— Я памятаю, як у час маёй пачатковай школы і ў пачатку ліцэя ў 1970-1980-я гады ўсе з Гарадка і ваколіц прыязджалі на Ганну ў Каралёвы Мост на фэст. Наша сям'я, хоць мы не маем тут нікога блізкага, заўсёды ў той час сюды прыязджала. Фэст пры царкве ў Каралёвым Мосце заўсёды быў падзеяй. Прыязджалі, а не было столькі аўтамабіляў, як цяпер, у асноўным на фурманках. А потым неяк менш прыязджалі. Чаму? Не ведаю, — сказала «Ніве» Дарота Сульжык, галоўная рэдактарка «Гарадоцкіх навін», якая жыве ў Валілах-Станцыі.

У гэтым годзе падчас фэсту фурманак пад царквой у Каралёвым Мосце не было. Аднак тэрыторыя вакол ларкоў была застаўленая шматлікімі аўтамабілямі не толькі на мясцовых рэгістрацыйных нумарах.



## Як у «Пана Бога...»

Каб хтосьці калісь у Каралёвым Мосце арганізаваў такую забаву як гэтая, «на Ганну», ніводзін з мясцовых жыхароў не памятае. Спецыяльна для гэтага выпадку выкасілі і прыбралі спартыўную пляцоўку. На мураве стала драўляная сцэна.

— Мы мусілі яе паўдня складваць, — прызнаўся нам адзін з хлопцаў з абслугі мерапрыемства з ГЦК.

«На Ганну» сышліся жыхары не толькі Каралёвага Моста, але і навакольных вёсак. Арганізатары частавалі бясплатным бігасам. Трапілі сюды і турысты. Можна было пачуць людзей, гаварыўшых па-літоўску. На роварах прыехала некалькі маладых людзей, якія пастаянна жывуць у Вроцлаве:

— Мы прыехалі на канікулы на Падляшша, каб праверыць, ці тут на самой справе так прыгожа, як у рэкламе. Аказалася проста цудоўна.

— Сям'я майго сваяка мае дом у Залуках. Ніхто ў ім не жыве, і калі яны даведаліся, што на канікулы хочам на Падляшша, запрапанавалі нам, што можам тут начаваць. Наведваем Беласток, Супрасль, Багонікі, Крушыняны. На праваслаўным фэсце і беларускай забаве мы гуляем першы раз у жыцці. Першае, што злавілі нашы вочы, гэта што ні крок аб'явы на кірыліцы. І мясцовая мова такая меладычная.

— Мы ведалі аб Каралёвым Мосце з фільмаў Яцка Бромскага: «У Пана Бога за...», хоць у ім, кажуць, здымкаў да гэтых фільмаў тут не рабілі. У Залуках нам жывецца як «У пана Бога ў агародчыку». Проста мегапрыемна!

Ад дзесяці гадоў жыхаркай Каралёвага Моста з'яўляецца Ала Чабан. Яна прыехала з Украіны:

— Я пакінула свой дом ва Украіне і выйшла замуж за паляка, мясцовага лесніка. Цяпер у мяне ёсць польскае грамадзянства, і гэта важна, што ў мяне ёсць праца. Я працую на лесапільні ў Калодным. Адкуль я жыву тут, гэта першае такое мерапрыемства, не толькі беларускае, але зусім. Часам на гэтым полі маладыя гуляюць у футбол. А так яно пустуе. Хацелі нам яго забраць і прадаць зямлю, але мы не дапусцілі.

Яе суседка, што разам прыйшла на гулянне, уставіла:

— Шкада толькі, што гэтая забава не над ракой. Там было б файней, асабліва ў такую спякоту. Можа гэта нават мяшае людзям, якія жывуць па-суседску, а там бязлюддзе.

## Вяртанне да традыцыі?

На забаве выступілі, галоўным чынам з дыскапольным рэпертуарам і не заўсёды па-беларуску, гурты і вакалісты, галоўным чынам, з ГЦК у Гарадку, але са сцэны можна таксама было паслухаць традыцыйных беларускіх песень у выкананні, працуючай ад пятнаццаці гадоў, «Каліны» з Залук. Яе сяброўка Мар'янна Апановіч сказала нам з горыччу:

— Ну, на жаль, мы спяваем тут пры падтрымцы фанаграмы, таму што з нашай каманды адышоў музычны інструктар і акампаніятар Віктар Леанкевіч і новага пастаяннага мы не маем. Калісьці забавы на Ганну, як правіла, былі ў Пяшчаніках, і нават у нашых Залуках. Зараз не вельмі каму ёсць іх рабіць, маладых амаль не засталося. Часта няма каго на месцы, каб зайграў, а наймаць нейкі ансамбль занадта дорага.

Як і належыць беларускай сапраўднай забаве ў Гарадоцкай гміне, асабліва ў апошні час, і ў Каралёвым Мосце не магло не хапіць «Прымакоў» — зоркі такіх і падобных мерапрыемстваў. Юрка Астапчук пераконваў нас:

— Для саміх жыхароў вёсак забавы патрэбныя. Я думаю, што гэта вяртанне да традыцыі, якая калісьці была тут, калі кожная вёска мела забаву з нагоды святаў. Калісь было лягчэй сарганізаваць забаву, таму што ў вёсках былі маладыя людзі, якія арганізоўвалі іх самі, клапаціліся, каб штогод была забава пры найбольшым свяце. Цяпер мы, як ГЦК, хочам захаваць традыцыю. Перш за ўсё, дзякуючы забавам людзі становяцца бліжэйшымі адзін да аднаго. Мы арганізавалі забаву на спортпляцоўцы ў Каралёвым Мосце, таму што над раку давесці электраток было б складана, а вось гэтае цудоўнае месца не выкарыстоўваецца. Да таго гэтае месца пры маршруце на Беласток, і турыстам не прыходзіцца спецыяльна шукаць яго.

## Сентыментальнае падарожжа

У Каралёвым Мосце на працягу многіх гадоў жыве вядомы 63-гадовы мастак-графік Уладзіслаў Петрук. З нагоды танцаў мы наведалі яго ў ягоным доме. Ён таксама збіраўся на забаву. Нядаўна першы раз наведаў ён Беларусь. Гэта адбылося з нагоды яго выставы ў Брэсце (у спалучэнні з прэзентацыяй фатаграфій Віктара Волкава), дзе ў адной з мясцовых выставачных залаў паказваюць да канца ліпеня ягоныя больш за сорак прыродных і архітэктурных пейзажаў ваяводства:

— Для мяне гэта было ў асноўным сентыментальнае падарожжа, таму што я нарадзіўся некалькі дзясяткаў кіламетраў адгэтуль у Наройках пад Драгічынам. Пасля стольких гадоў я мог праехаць тыя трыццаць кіламетраў за мяжу, якой не ведалі мае продкі. На самой справе, я быў у Беларусі другі раз. Першы раз я паехаў у Нясвіж на пахаванне, але зараз упершыню я быў у Беларусі ў якасці мастака. Кажуць вакол, я тут адыходжу ад палітычных пытанняў, што Беларусь такая «фэ». Я заехаў і вачам не верыў. Людзі прыязныя адзін з адным, усюды парадачак, і надта прыгожы стары горад у Брэсце. Усюды відаць рукі мастакоў. Кожная рэклама прадуманая ў мастацкім сэнсе. У гэтым плане ў нас на кожным кроку хаос, нават у Кнышынскай пушчы агідныя білборды знішчаюць пейзаж, для якога прыязджаюць турысты.

І расказаў пры нагодзе забавы на пляцоўцы праз дарогу:

— Быў еўрасаюзны грант на танцы з пачастункам у гарадоцкіх вёсках яшчэ пры ранейшым дырэктары ГЦК у Гарадку Юрым Хмялеўскім. І гэта людзям падабаецца. Але дзе тут тая высокая культура? У Гарадку нават з назвы ёсць цэнтр культуры, а не нейкі звычайны дом культуры. А што адбываецца? У асноўным дыска-пола з плэйбека.

## Абаронена спортпляцоўка

Уладзіслаў Петрук таксама са шкадаваннем адзначыў:

— Былі ў Каралёвым Мосце пошта, школа і амбулаторыя. Цяпер нават няма дзе правесці выбары, якія адбываліся ў паштовым аддзяленні побач з царквой. Цяпер бліжэйшы выбарчы ўчастак у Калодным. Усё папрадавалі, але, з іншага боку, для сарака пару сем'яў утрымліваць усё гэта? Гарадоцкія ўлады таксама хацелі прадаць спортплцоўку, але людзі не далі. Можа яшчэ мост схочуць прадаць?

Калі дзяўчаты з групы «Вена» на сцэне на спортпляцоўцы спрабавалі падарваць да танцаў усё ідучую на забаву да змяркання аўдыторыю, Ала Чабан азіраецца на суседні будынак былой пошты:

— Пакінулі б нам хоць гэты адзін будынак, то можна было б зрабіць там клуб, дзе маглі б сустрэцца пажылыя людзі, сарганізаваць, вось, танцы ў зімовы час, паспяваць разам. Уладальнікі будынка на працягу некаторага часу пазычалі яго, але не цяпер.

Войт Гарадоцкай гміны Веслаў Кулеша з'явіўся на свежаскошанай траве на палетку як заўсёды бездакорна апрануты ў касцюм. Тлумачыў «Ніве»:

— Чаму былі прададзены тутэйшая школа, амбулаторыя і пошта, трэба было б спытацца ў майго папярэдніка. Гэта праўда, што ёсць ахвотныя купіць спортпляцоўку, якая выклікае вялікую цікавасць, але жыхары далі зразумець, што яна павінна застацца. І так будзе, хоць няма ніякай упэўненасці, што гэта калі-небудзь не здарыцца. На самой справе, гэта не спортпляцоўка, а нармальная плошча, а зямля ў Каралёвым Мосце цэніцца.

Са сцэны нагадаў:

— Тут, у падгарадоцкіх мясцовасцях з розных нагод, напрыклад, на Ганну, часта праводзіліся гулянні з музыкай нашых мясцовых музыкантаў. Я памятаю забавы на Ганну ў Калодным і Пяшчаніках. Я чуў, што такія забавы на дварэ на Ганну былі тут, у Каралёвым Мосце. Гэта быў час цудоўнай інтэграцыі, і я спадзяюся, што сённяшняя забава дазволіць узнавіць тыя часы.

У Каралёвым Мосце інтэграваліся да позняй ночы. І ўсё паказвае на тое, што гэтая гульня — не ў апошні раз.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Пакінулі ў дурнях

Надзея Сахарчук з вёскі Малліннікі заключыла дамову на аказванне тэлекамунікацыйных паслуг з аператарам „Дыялог" у 2009 годзе. Дакумент саставіў прадстаўнік фірмы ў Малінніках уручную ў двух экземплярах. Пасля спісання дамовы аквізітар сказаў бабульцы падпісаць дакумент на першай старонцы, затым арыгінал схаваў у партфель, а копію перадаў жанчыне (копія ў рэчаіснасці не чыталася і на абароцце не была падпісана абанентам). Надзея Сахарчук карысталася паслугамі „Дыялога" да гэтага года. Тэрмінова аплачвала рахункі. Калі сёлета трапіўся таннейшы пастаўшчык паслуг, а быў гэта прадстаўнік фірмы „Тэлестрада" і запрапанаваў тэлефонны абанемент за 15 зл. штомесячна, дык пажылая інвалідка, не разбіраючыся ў сутнасці справы, пагадзілася. Прадстаўнік „Тэлестрады" прад'явіў, што абанент можа застацца пры даўнейшым нумары тэлефона, а справы скасавання дамовы з „Дыялогам" абодва тэлеаператары ўладкуюць паміж сабою. Госць ад'ехаў. Не пакінуў ён Надзеі Сахарчук ані спісанай дамовы, ані статуту аказвання паслуг, ані цэнніка. Праз некалькі дзён бабулька з новай фірмы атрымала тэлефонны апарат, якім не ведала як карыстацца. Таму, праз пасрэдніцтва знаёмага жыхара Бельска, адаслала атрыманую пасылку ў „Тэлестраду", прытым заявіла, што адмаўляецца ад заключанай дамовы.

Але гэта не адзіны клопат бабулькі з тэлефонам. Фірма „Дыялог" прыслала штрафны рахунак на суму 184 зл. за датэрміновае скасаванне дамовы, а „Тэлестрада" дапамінаецца заплаціць двумесячны абанемент за новы тэлефон, якім жанчына не карысталася. А ўся бяда ў тым, што яна не можа пакарыстацца сваім даўнейшым тэлефонам. Адключылі яго ад сеткі. Такім чынам засталася яна „адрэзанай" ад свету. Несумленныя пастаўшчыкі тэлефонных паслуг пакінулі старэчу ў дурнях. Бабулька зараз не спіць начамі. Нервуецца. Шукае дапамогі.

Я паспрабаваў пацікавіць праблемай арлянскага войта Пятра Сэльвесюка. Абяцаў пахадайнічаць у Павятовага заступніка правоў спажыўцоў у Бельску-Падляшскім. Які будзе канчатковы вынік згаданай справы — пакажа час.

## У Кузаве небяспечна

Аб бравурных матагонках г.зв. „каскадзёраў" па кузаўскай вуліцы лепш не гаварыць. Асабліва ў летні час, калі сонейка прыгравае і аматары загарання хлынуць над Рэпчыцкі вадаём, хвацкія юнакі не прытрымліваюцца правілаў дарожнага руху. Шпарацьяны з празмернай хуткасцю. Былі ўжо выпадкі, што зухаватыя вадзіцелі, не справіўшыся на крутым павароце, павісалі... на прыдарожным плоце. Тады не было ахвяр у людзях. Інакш было ў суботу, 8 жніўня. У пасляабедзенны час насупраць сядзібы Яна Саўчука здарыўся выпадак. Матацыкліст, на прамым адрэзку дарогі, зачапіў ідучую па вуліцы жанчыну. У выніку здарэння пацярпела жыхарка Гайнаўкі, якая з дачкою падавалася ад бацькоў на чыгуначную станцыю. Вінаўнік дарожна-транспартнага здарэння выйшаў цэлым і ўцёк з месца злачынства, пакідаючы ахвяру на волю лёсу. Выпадковыя сведкі выклікалі хуткую дапамогу. З'явіліся паліцэйскія з дарожнага руху. Зараз вядзецца следства ў пошуках вінаўніка.

(ус)

# XXI СПАСАЎСКІЯ ЗАПУСТЫ

«Спасаўскія запусты», якія арганізуюцца перад Спасаўкай — двухтыднёвым постам перад Успеннем Прасвятой Багародзіцы, сталі ўжо візітнай карткачай Бельска-Падляшскага. Мэта мерапрыемства — захаванне беларускай мовы, культуры і нашых традыцый. XXI «Спасаўскія запусты», прымеркаваныя да сотай гадавіны бітвы за Бельск і пачатку бежанства, арганізавалі 9 жніўня ў гарадскім амфітэатры ў Парку каралевы Алены ў Бельску-Падляшскім Аб'яднанне «Бельская кааліцыя», Павятовая ўправа БГКТ, Бельскі дом культуры і Аб'яднанне «Музей малой айчыны ў Студзіводах». Перад публікай выступілі музычныя калектывы з Беласточчыны і Рэспублікі Беларусь. З тэатральнай праграмай «Аповеды маіх дзядуляў» запрэзентаваліся вучні Тэатральнага калектыву «Антракт», што дзейнічае пра БДК. Дзеткі, якія займаліся падчас майстар-класаў у доме культуры, супольна з калектывам «Магдаліна» з Беларусі паказалі таксама жніўны абрад.



Калектыў «Магдаліна» з Кобрыншчыны

Сёлетнія «Спасаўскія запусты» праходзілі падчас спякотнага надвор'я, калі тэмпература даходзіла да 35 градусаў. Частка публікі хавалася ад спёкі ў цяньку, многія засталіся сядзець на яркім сонцы. Першымі перад публікай запрэзентаваліся акцёры калектыву «Антракт» і дзеткі, якія разам з імі займаліся на працягу тыдня ў Бельскім доме культуры пад кірункам Альжбеты Фіёнік, інструктаркі па тэатральнай дзейнасці. Паказалі яны праграму на тэму бежанства, папоўненую жніўным абрадам.

— Мы паказвалі бежанства раней, прэзентавалі ўжо жніўныя абрады. У Бельскім доме культуры мы вучыліся выступаць з дзеткамі, якія займаліся з намі падчас майстар-класаў, — сказаў вучань бельскай „тройкі" Максім Фіёнік. Яго сябра Павел Кучынскі заявіў, што пра бежанства мала гаворыцца ў школе, а гэта важная падзея ў гісторыі мясцовых беларусаў. Заняткі ў БДК далі моладзі больш ведаў аб падзеях стогадовай даўнасці.

Дар'я Мартыновіч і Віялета Боцюк са студзіводскай «Жэмэрвы» былі рады, што публіка горача ўспрыняла іх выступы з неапрацаваным фальклорам, які прэзентуецца ў Бельску штораз часцей.

— Падчас выступлення мы ўявілі сабе нашых людзей, якія сто гадоў таму адправіліся ў бежанства. Тады яны якраз збіралі ўраджай. Жніўны абрад мы закончылі разам з жанчынамі з калектыву «Магдаліна» з вёскі Магдалін Кобрынскага раёна. Менавіта праз Кобрын уцякалі нашы бежанцы, — расказвала Альжбета Фіёнік, якая вяла мерапрыемства.

Падчас жніўнага абраду жанчыны з Кобрыншчыны падперазалі гаспадара жніва — бургаміcтра Бельска-Падляшскага Яраслава Бароўскага перавяслам, паклалі яму на шыю вянок і далі ў рукі хлеб. Хлеб і жыта атрымалі старшыня Аб'яднання «Бельская кааліцыя», віцэ-староста Бельскага павета Пётр Божка і старшыня Павятовай управы БГКТ у Бельску-Падляшскім Васіль Ляшчынскі.

— «Спасаўскія запусты» сталі ў Бельску традыцыяй. Падчас нашага мерапрыемства выступаюць калектывы з Бельшчыны і запрошаныя гурты. Гэта добрая нагода да спеваў, танцаў і адпачынку ад штодзённасці, — заявіў старшыня Павятовай управы БГКТ у Бельску-Падляшскім, радны Рады Бельскага павета, былы шматгадовы дырэктар бельскай «тройкі» Васіль Ляшчынскі.

Старшыня Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік пазней дабавіў, што ў мінулым запусты перад Спасаўкай былі нагодай да гульняў, калі нашы продкі ў тым часе спраўлялі дажынкі.

— Прэзентаваныя на сцэне абрады добра вядомы старэйшым людзям. Аднак мала аб іх ведаюць маладыя асобы. Такім чынам мерапрыемства мае адукацыйны характар. Дзеткі спасаліся на бежанства, у якое адправілся многія нашы продкі роўна 100 гадоў таму. Гэта таксама пазнаванне нашай гісторыі, — гаварыў бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі. — Мае продкі былі ў бежанстве і я шкадуюся, што так мала распытаў сваю бабулю пра яе бежанскую адысею. Зараз мы павінны інфармаваць грамадства на тэму бежанства, паслядоўнасці якога доўга спадарожнічалі жыццю нашых продкаў. Памяць пра бежанства павінна ўшаноўвацца па-рознаму, у розных месцах і тады нашае грамадства даведаецца аб ім як найбольш.

— Падчас сёлетніх «Спасаўскіх запустаў» мы паказваем наш фальклор і музычны рэпертуар. У гэтым годзе адзначаем таксама 100 гадавіну Бельскай бітвы — аднаго з самых вялікіх баёў падчас Першай сусветнай вайны на тэрыторыі сённяшняга Падляшша. Нашы дзеткі цудоўна выступілі, спасылаючыся на гістарычныя падзеі і наш фальклор, — сказаў старшыня Аб'яднання «Бельская кааліцыя», шматгадовы віцэ-староста Бельскага павета Пётр Божка і запрасіў на сцэну войта Арлянскай гміны Пятра Сэльвесюка — кандыдата ў сенатары са спіска Грамадзянскай платформы ў 61 выбарчай акрузе, якая



Арлянскі войт і заадно кандыдат у сенатары РП Пётр Сэльвесюк

ахоплівае Бельскі, Гайнаўскі, Сямятыцкі і Высока-Мазавецкі паветы. Парламенцкія выбары запланаваны ў Польшчы на 25 кастрычніка гэтага года.

— Нам, праваслаўнай, беларускай меншасці, якая тут жыве і ад стагоддзяў размаўляе на сваёй мове, патрэбны свой прадстаўнік у Сенаце Рэчы Паспалітай. Я хачу быць таксама прадстаўніком іншых нацыянальнасцей і лічу, што прыйшоў час на змены і новы подых, — сказаў Пётр Сэльвесюк.

Перад публікай запрэзентаваліся хор «Асенні ліст» Універсітэта залатога веку ў Бельску-Падляшскім, «Сямейнае трыо» з Макаўкі, дзяўчаты з калектыву «Вянок» Бельскага белліцэя, калектыў «Астэрыя» Дома праваслаўнай культуры ў Бельску і калектыў «Луна» з Парцава. З народнымі музычнымі інструментамі займальна выступілі калектывы «Магдаліна» і «Зараніца» Магдалінскага сельскага дома культуры Кобрынскага раёна.

— Мы ўжо чатыры гады супрацоўнічаем са Студзіводскім музеем і яго кіраўніком Дарафеем Фіёнікам і цяперашні наш прыезд у Бельск ды выступ на сцэне — рэзультат гэтага супрацоўніцтва. Мы тут можам многаму навучыцца ад вас, а вашы калектывы могуць нешта пераняць ад нас, — сказала Алена Букач, мастацкі кіраўнік Народнага ансамбля песні і музыкі «Зараніца», якая таксама выступае ў калектыве «Магдаліна». — Калектыў «Магдаліна» запрэзентаваў песні і народныя танцы, а «Зараніца» будзе выступаць з сучаснымі беларускімі песнямі.

— Мы з мамай збіраем беларускі фальклор і запісваем народныя песні, якія пасля выконваем, — заявіла Святлана Самулевіч, кіраўнік Народнага клуба аматараў фальклору «Магдаліна», дачка Алены Букач.

Асабліва горача публіка ўспрыняла выступ свайго Калектыву беларускай песні «Маланка» з Бельска-Падляшскага.

— Ад пачатку «Спасаўскіх запустаў» я, як дырэктар Бельскага дома культуры, быў адказны за мастацкую частку мерапрыемства, за чым сачыла асабіста і сёння гэта ўдала робіць Альжбета Фіёнік. Ужо арганізуюцца трэція запусты з таго часу, калі я выйшаў на пенсію. Цяпер выступаю толькі як мастацкі кіраўнік «Маланкі», — заявіў былы дырэктар БДК Сяргей Лукашук.

Цікава запрэзентаваўся таксама калектыў «Гай» з Беластока. Падчас мерапрыемства можна было купіць беларускую літаратуру, якую прадавалі дзеячы Студзіводскага музея. Раней Васіль Ляшчынскі прапанаваў мадыфікаваць формулу «Спасаўскіх запустаў», а менавіта пашырыць іх культурную прапанову.

— Кожнае мерапрыемства не павінна стаяць на месцы. «Спасаўскія запусты» таксама павінны развівацца. Мы аналізуем новыя канцэпцыі нашага мерапрыемства. Лічым, што добра было б выйсці з шырэйшай прапановай да жыхароў горада і пастарацца прыцягнуць маладых жыхароў Бельска і наваколля. Яшчэ не рашыліся на канкрэтную формулу, але хочам надалей арганізаваць імпрэзу на вольным паветры. — сказаў бургамістр Яраслаў Бароўскі.

— У мінулым падчас «Спасаўскіх запустаў» выступалі нават беларуская рок-гурты, арганізаваліся выставы і сустрэчы. У Бельску, у нашым найстарэйшым Прачысценскім прыходзе, вельмі ўрачыста праходзяць святкаванні ў гонар Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, якія называем «Прачыстай». Можа на гэты дзень перанесці беларускае мерапрыемства, якое дагэтуль мы называлі «Спасаўскімі запустамі», — дабавіў бельскі гарадскі радны Тамаш Суліма, актыўны дзеяч Студзіводскага музея.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# А хата чакае


Сяргей Лавіцкі

**— Прыехаў, купіў, аднавіў, жыве. Часам то тутэйшыя адчуваюць сябе чужымі ў вёсцы, — паказвае адноўленыя хаты на месцы старажытных сядзіб у вёсцы Меляшкі Гарадоцкай гміны Мікалай Кастэнчык (58 гадоў). — А хто там памятае, як там у нас было! Ужо з нашага пакалення мала што памятаем, і мала хто застаўся ў вёсцы. А вось Сяргей Лавіцкі — як пачне гаварыць, то ўвесь дзень можа ўспамінаць.**

І вядуць мяне Коля з Сярожам Госцікам пад дом, перад якім на лаўцы сядзіць мужчына. Што ён з пакалення больш-менш нашых бацькоў, якія больш павінны памятаць пра падзеі ў гэтай больш за пяцісотгадовай даўніны вёсцы, сведчыць тое, што на від мяне ў атачэнні мужчын-меляшкоўцаў азываецца:

— А я памятаю тваю маму, як прыязджала ў вёску да сваёй цёці, а пасля і сястры, што сюды выйшла замуж. І мы гулялі разам, нам было па пятнаццаць гадоў...

Мая мама Зіна расказвала была, што калі прыехала на вяселле ў Меляшкі, то ўваходзячы ў хатку Пятэльскіх на парозе пабіла сабе галаву аб праўшняк дзвярэй — такая тая хаціна была нізенькая. А ўсе хаты, пабудаваныя ў пяцідзясятыя і пазней былі ўжо высокія. Але гэты дом і дагэтуль самавіты, хаця старэйшы, гэты дом што стаіць за плотам, пры якім сядзіць дзядзька Сяргей. Адно і чакаў, каб хто падышоў да яго і сеў на лавачку. Для таго тыя лаўкі стаяць перад кожным домам у Меляшках, запрашаючы да гавэнды, а калісь і песень. Як заспявалі былі ў Меляшках калісьці, то ад пачатку вёскі чуваць было аж да Сэтаў. І прывыклі гучна ўсе меляшкоўцы гаварыць, зычна, што засталося ім назаўжды. Юля «Крупіцкая» — Даманёва, цяпер Грыка, летуючая ў вёсцы, як загаворыць на Беласточку, то з Сакольскай чуць яе амаль да Радзымінскай пад «Бядронкай». На сцэне, як іграла ў «Мікітавым лапці» галоўнага героя, не трэба было ёй мікрафона, каб пачулі ў апошніх радах тэатра!

— Найграй яго, будзеш мець гісторыю, — кажа Коля. — І нам во здымкі парафі, хай будуць для праўнукаў, калі ў каго яны будуць... І гэты ясень і дуб здымі, — паказвае на каля 150-гадовы дуб, з выявай на пні быццам бы іконы, і ясень, які праз тыдні два будзе разараваны на часткі ў час вялікай буры, што ператварыла шмат падляшскіх лясоў і садоў у бураломам. — Ніколі невядома, калі бачышся з кім апошні раз... Сяргей усё ведае.

Сядаем на лавачку каля хаты з нумарам 43.

— Ад таго клішы не парвуцца! — смяецца спадар Сяргей Лавіцкі. — Я стопрацэнтны жыхар з гэтае хаты. Гэтай хаце дзевяноста гадоў. З трыццатага года, як мне пераказалі бацькі. Што ні гавары, але і мяне тут пяцьдзясят гадоў не было. Мы адсюль выбылі. А чаму? Калгасы нас выгналі. Я ў 1957-1958 годзе, маючы 17-18 гадоў, працаваў у Барэцкай пушчы. Гэта ваколіцы Гіжыцка, Круклянак. У снезе, у гумавых ботах, у шостую гадзіну выходзілі. У восьмую ўвечары вярталіся. Хтось мяне пытаецца: у гэтую пару што рабіць у лесе? Калі ў трэцюю гадзіну зімой цёмна. А мы ж рабілі да восьмай. Спускалі агромныя елкі, у адно месца, распальвалі пару вогнішч, і было віднютка як у дзень. Рабілі, бо трэба было зарабіць. Потым была найгоршая справа вярнуцца дахаты. Адна дарога так павыбівана тымі трактарамі-цягачамі, што калі вывозілі драўніну, у гумавікі нам вады набіралася... Прыйдзем — гадзіна восьмая, а рана трэба было ўставаць. А былі мы самі — трэба было наварыць, хоць гарбаты. Якая была сітуацыя? Мы былі з Беласточчыны, а ў другім памяшканні былі з Люблінскага. Яны спяць. Мы мелі сваю чаргу — устаем і варым. Гэта быў вялізны саган. І збожжавай кавы, каб было чаго напіцца, і ў лес узяць. Устаем, варым. А яны толькі дзверы адчыняць і пытаюцца: «Gotowe?» Урэшце нам надаела: колькі мы вам будзем варыць? І так мы зрабілі: пераваранаю ваду забярэм, а ім налём сырой, і толькі крыху падварым. А бралі мы ў лес сала. І як яны таго сала наядуцца, пап'юць непераваранай вады!.. І ўбачылі яны, што тут штосьці не так. Сталі пільнаваць і варыць самі ваду.... От, такія ўспаміны прыйшлі ў гэтае гарачае лета. Ну, я згэтуль. Мая жонка са Скраблякоў. У гэтую хатку прыязджаем толькі на лета. А жывем канкрэтна на вуліцы Цёплай у Беластоку.

— О, іхняя хатка тут харошая! — заўважае Коля.


Юля Грыка і Сяргей Госцік

— Ну, адрамантавана ў сярэдзіне сяк-так. Калі б гэта была мая цалкавітая ўласнасць, можа я і больш спакусіўся б адрамантаваць яе, перакрыць, бо тут старая дахоўка. З трыццатых гадоў яна яшчэ, з 1929-1930 года, як бацька яе будаваў. Трэба было б змяніць дах. Я маю ў гэтай хаце дзве часткі. Сястра мела трэцюю. Сястра памерла больш года таму, і нікому не перадала. Цяпер яе сын патрабуе грошай. Пытаюся ў яго, чаму іх патрабуе, калі гэта яшчэ не ягонае. Мусіць гэта прысудзіць па матцы на сябе. Як я маю яму заплаціць, калі яшчэ гэта не ягоная ўласнасць. Дам табе сёння, а ты праз тыдзень прыйдзеш і скажаш, што нічога не дастаў. Мой найстарэйшы брат (1931 год нараджэння) жыў на калёніі, сястра (1935 год нараджэння), і я — 1939 *рочнік*. І гэта ўсё засталося так, як засталося. Братава дачка жыве ў Канадзе, і яна сваю трэцюю частку па бацьку фармальна там у Канадзе аформіла на мяне. І я маю дзве часткі. Кажу пляменніку: ідзі ў суд, гэта ж грошыкі каштуе, гэта невялікая справа. Перасудзі на сябе, і тады будзем размаўляць. Гэта ж ніякая не праблема, бо гэта табе належыцца, усё ў час аднаго пасяджэння суд вырашыць. А ён не — грошы давай.

— Такіх «нічыіх» хатаў шмат па нашых вёсках, калі памерлі гаспадары, а спадчыннікі не паафармлялі актаў уласнасці, і невядома хто мае рамантаваць будынкі, і нішчэюць яны... — не раз такое я бачыла.

— Тады і я хату зрабіў бы ціп-топ. Хаця і мне гэта ўжо не такое патрэбнае. Мая старэйшая дачка ў Штатах, невядома ці адтуль вернецца, сын у Дайлідах пабудаваўся, кажа: «Тата, я не дам рады яшчэ гэтай хатай займацца». Сын ездзіць на аўтафурах па Еўропе. Званю сёння — а ён у Францыі. На другі дзень званю — а ён у Італіі. І каму я гэта ўсё пакіну? Такая праўда... А вы гэта Зінкі дачка? Яна прыязджала і да Юлькі і Валькі, бо тут жыла яе цёця Вера. Ой, рабілі мы там рабан! Мы толькі пасля падставоўкі... Старая хатка ў Пятэльскавых сапраўды маленькая была, аконцы ў кратку, людзі жылі як жылі... Я з Нінчыным свёкрам пасвіў кароў. Я пасвіў кароў ад сямі гадоў, да дванаццаці. Зарабляў. За паўметра збожжа пасвілася карову. Так што калі я дваццаць кароў пасвіў, дык меў для сям'і дзесяць метраў збожжа. Мае бацькі мелі шэсць гектараў, але гэта былі лугі, палеткі, агарод, лес, багна такая, што ўтапіцца можна было. А нас было трое плюс двое бацькоў. Бацька ў Валілы цягаў зімой драўніну. Трэба было неяк сям'ю пракарміць, выхаваць дзяцей. Не было так як цяпер: ідзе да «Помачы» калі не дае рады, і даюць. Тата меў двое коней. Калі мне было 16 гадоў, пасля пачатковай школы, дык мы пасля чацвёртай гадзіны раніцы выязджалі, ехалі аж у Калітнік, у Бахуры, там бралі тую агромную драўніну, па два-паўтара фасметра, і везлі аж у Валілы. Тут у 12 гадзіну ўсё стаяла з тою драўнінай, паілі, кармілі коней, і ехалі далей у Валілы. На санях. Калі завезлі, вярталіся ўвечары ў восьмую гадзіну. Бо там была такая вялікая чарга, каб тую драўніну скінуць, што стаяла аж у Гарадку. Трэба было да Валіл давезці і кожную калоду скінуць, запісаць, і тады за гэта плацілі. А ранкам у чацвёртую — зноў на фуру. Калі было добрае надвор'е. А калі снегам усё засыпала, ніхто не хацеў першы ехаць. Бо той першы праціраў дарогу. Чакалі, хто паедзе першы. І потым на змену. А мароз найменш дваццаць градусаў. Дык больш беглася за санямі, чым на іх сядзелася, бо чалавек мёрз. Не было тады такога адзення як цяпер. Надзенеш сякія-такія штаны, кашулю зрэбную з ільну... Прадувала. Ну якое здароўе трэба было мець! А я ў 1957-1958 годзе, на паўгода, ад кастрычніка да мая, апынуўся «на Прусах», у Лучанскай кнеі, пад Гіжыцкам, — о, там то было снегу! 25 градусаў марозу! І рабілі мы пілкай. Пасля яшчэ паўгода там быў. Ад нас «на Прусы» выязджала шмат людзей. А ў 1959 годзе я пайшоў у войска. У Беласток, у Войска аховы пагранічча, да 1961 года, больш за два гады — пайшоў 3 лістапада, вярнуўся 25 лістапада. Дзе я працаваў у жыцці? Трэба было памагаць бацькам. Усе будынкі валіліся, апрача моцнай хаты. Вярнуўся я з войска. Прапанавалі мне міліцыю, службу бяспекі, я адмовіўся. І адразу ў красавіку я пайшоў у бетанярню. Працаваў год. Наступны год рабіў у будаўніцтве. І ў 1964 годзе пайшоў у ОПЗЗ — збожжавае прадпрыемства. На вуліцу Элеватарскую. Прарабіў я там 32 гады. Адтуль пайшоў на пенсію, маючы сорак гадоў працы, разам з работай на гаспадарцы, з войскам і ўсімі іншымі заняткамі. У 1995 годзе, у лістападзе. А ў лютым 1996 года пайшоў працаваць кансьержам, у Мясное прадпрыемства (да 2000 года), па вуліцы Каперніка. Трынаццаць гадоў пільнаваў брамы на завод. Фірма развалілася, шэф усіх распусціў, а мяне ўзяў на завод на вуліцу Дайноўскую, у кааператыў ПСС, і там я працаваў да 2012 года. У той час мне аперыравалі сэрца, устаўлялі байпасы і стэнты. Ну і пасля 57 гадоў работы цяпер сяджу. І чакаю ў чэргах, хаджу па лекарах. І першы раз прыйшлося пайсці мне да неўролага, у шпіталь МУС, што недалёка ад маёй Цёплай. Да праваслаўнай доктаркі; мая жонка таксама да яе ходзіць. Можаш быць кім хочаш, можаш нават і ксяндзом, з усімі размаўляе тая лекарка на «ты». Дала мне наша доктарка накіраванне на рэабілітацыю. А тут год чакаць трэба! Дык я забяруся сюды і жыву летам, рэабілітуюся сярод сваіх! Ці паможа мне тая рэабілітацыя?

— Паможа, як будзеш варушыцца! — ацанілі спецыялісты па рэабілітацыі з Меляшкоў.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі




# Я — БЕЛАРУСКІ

**МАЦЕЙ ХАЛАДОЎСКІ** — рэдактар «Нівы», якога гісторыю мы мелі магчымасць пазнаць. Хаця яго бабуля была беларускай, то ён выхаваўся ў польскамоўнай сям'і. Цэлае жыццё гаварыў на польскай мове, да таго вучыўся ў Ленінградзе (цяперашні Санкт-Пецярбург), дзе навучыўся рускай мове.

Цяпер ён піша ў «Ніву», выязджае на Беларусь. На Сустрэчах „Зоркі" ён расказаў пра тэатральнае жыццё горада Мінска. Як выявіў нам, больш за тэатр любіць журналістыку, якая дае яму шмат пазітыўнай энергіі.

Наша сустрэча закранула вельмі важную тэму. Хто мы? Сам Мацей Халадоўскі сказаў, што ўсё жыццё шукаў сябе. Думаў: ці ён паляк, ці беларус?..

І дайшоў да высновы, што ён, проста, беларускі.

**Наталля ВАСЬКО, «Сустрачанскія навіны»**

*Клаўдзія Галінская — „Сустрачанскія навіны"*

## Яна цябе кахае

*Яна цябе кахае,*
*Чаму не бачыш яе цярпення?*
*Ці чуеш?*
*Яна плача, крычыць,*
*А ты што?*
*А ты думаеш толькі пра сябе.*
*Ці ты не чуеш блізкасці яе?*
*Яна стараецца, а ты не глянеш на яе.*
*Яна думае пра цябе заўсёды.*
*Ты на яе ніколі не глянеш,*
*Ты яе не кахаеш,*
*— скажы гэта.*
*Не крыўдзі яе,*
*Яна верыць у цябе,*
*І ў вашае каханне.*

*Уля МАРЧУК — „Сустрачанскія навіны"*

## Ноч

*Цёмна*
*Розныя думкі прыходзяць у галаву*
*Не даюць спаць*
*Чалавек думае*
*Пра будучыню*
*Пра прышласць*
*Пра жыццё*

Унікальны рэцэпт Людмілы Казлоўскай

# Кампот з рэвеню

**Састаў:**

— 0,5 кілаграма рэвеню (rabarbaru),
— 5 літраў вады,
— 1 кісель,
— 2-3 лыжкі цукру,

**Спосаб падрыхтоўкі:**

Рэвень памыць і пакроіць на часткі. Заварыць ваду і ўкінуць у кіпень рэвень, гатаваць пакуль варыва разварыцца. Працадзіць усё праз сіта.

У малым кубачку развесці кісель з цукрам і вадой, дадаць усё ў кампот. Давесці да кіпення. Кампот гатовы!

Юстына Марчук, «Шпакоўня»



# УВАГА КОНКУРС! № 34-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 30 жніўня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Загадкі з роднай хаткі**

**Бліснула,**
**Зламалася,**
**Дзесьці ўміг**
**схавалася,**
**Ні дагнаць,**
**Ні след пазнаць —**
**Толькі водгулле чуваць.**
**М......**

**Хапаткія ў мяне крылы,**
**хвосцік востры, нібы вілы,**
**з гліны я гняздо ляплю,**
**мошак на ляту лаўлю.**
**Л.......**

**Ніл Гілевіч**

**Адказ на загадкі № 29-15: бровы, ноч, зямля. У гэты раз не было правільных адказаў.**

# Загледжаны на Мінск!

**Інтэрв'ю з Мацеем Халадоўскім – журналістам «Нівы», рэжысёрам па адукацыі, аматарам хатніх жывёл, намеснікам старшыні Мастацкай рады Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку.**

«Шпакоўня»: ***— Што прыцягнула Вас да беларускай газеты?***

**Мацей Халадоўскі:** — Міра Лукша ўзяла мяне за руку і прыцягнула (*смех*).

А сапраўды было так, што я доўга не ведаў хто я: ці паляк, ці беларус. Мяне выхавала бабуля Рэгіна, яна ў ментальным плане была беларускай жанчынай, падобна было з яе мужам, маім дзедам. Аднак у трыццатыя гады XX стагоддзя яны са страху перайшлі на каталіцкую веру, таму што часы тады былі вельмі цяжкія. Мая бабуля гаварыла па-польску, але часта ўключала некаторыя беларускія словы. Калі я перастаў пісаць у штодзёнцы «Gazeta Wyborcza», я меў вельмі цяжкі час у сваім жыцці. Тады я спаткаў Міру Лукшу, якая дапамагла мне пісаць у «Ніву».



**Ш:** ***— Вы паказалі нам здымкі з Мінска. Як Вы адчуваеце сябе ў гэтым горадзе?***

**МХ:** — Мінск — вельмі дзіўны горад. З адной стараны гэта сталіца Беларусі, горад які «галодны» мастацтва ды адначасова людзі жывуць там у нейкіх рамках. Калі аднак гаварыць пра мастацтва і людзей, то Мінск гэта адзін з цікавейшых гарадоў у Еўропе.

**Ш:** ***— Што Вам больш падабаецца — журналістыка, ці тэатр?***

МХ: — Думаю, што больш падабаецца мне журналістыка. Тэатр таксама вельмі цікавы. Аднак я больш люблю журналістыку. Чаму? Я кожны дзень магу сустракацца і гаварыць з іншым чалавекам. Я пытаю іх пра розныя справы, а яны перада мной адкрываюцца. Можна пазнаць таксама многа новых месцаў, якіх я раней не ведаў.

**Ш:** ***— Ведаем, што Вы любіце жывёл. Хто займаецца Вашым катом як Вас няма ў хаце?***

**МХ:** — Калісьці я меў сабаку, якую назваў «Путка». Яна памерла дзевяць гадоў таму назад. Яе заўсёды даглядала мая маці. А зараз у мяне, ужо восем гадоў, кот «Фацэт». Калі я дзесьці еду, катом займаюцца сябры. Часта дапамагае мне Міра Лукша, якая корміць і размаўляе з маім катом, каб ён не адчуваў сябе адзінокім. Часам даглядае яго сябра Багдан Дудко. Я аднак не магу яго пакінуць на даўжэйшы час, таму што я вельмі люблю жывёл.

**Ш:** ***— Якія ў Вас планы на будучыню?***

**МХ:** — Я хацеў бы вярнуцца хоць бы на нейкі час у тэатр і займацца рэжысурай. За доўгія гады ў маёй душы многа назбіралася і я хачу гэтым падзяліцца. Ясна, я не думаю пакідаць «Ніву». У наступным нумары будзе маё інтэрв'ю з мастакамі з Беларусі, запрашаю яго прачытаць...

**Ш:** ***— Дзякуем за размову!***

**МХ:** — Я таксама дзякую!

*«Шпакоўня», апрацоўка Юстыны МАРЧУК*



**Малюнак «Мацей ХАЛАДОЎСКІ» Элізы Матус**

# Як ліхое за нос вадзіла

Пайшоў я на луг, каб падаіць карову. Красуля дала трыццаць літраў малака. Разумееце? Трыццаць літраў белага, смачнага шчасця! Трэба было глядзець, каб яго давезці дахаты. Паставіў я бітон з малачком на ровар і думаў ехаць. І раптам... забыўся куды мне ехаць. У які бок? Вырашыў я закрыць вочы і ісці прама. Праз нейкі час я адкрыў вочы і ўбачыў бабу Каваліншчыну. Ну, гэтага было ўжо замнога. Я рашыў ісці, куды ногі панясуць. А яны ведалі, куды мне трэба. Так патрапіў я на свой панадворак.

Вось як мяне з бітонам белага шчасця ліха за нос вадзіла.

*Крыстыян Паскробка — «Шпакоўня»*

# Вершы Віктара Шведа



## Мікола і школа

Скардзіцца маме Мікола:
— Я не пайду сёння ў школу.
Школа стала мне згубай,
Ніхто мяне ў школе не любіць.

Мама мая дарагая,
Няміла мне школа тая.
— Ідзі ў сваю школу, Мікола.
Што за дырэктар без школы!

## Чаму плачаш?

— Чаму ты плачаш, дзяўчынка?
— Спазнілася на цягнік,
Уцёк мне перад хвілінкай
І за гарызонтам знік.

— Ды нельга ж так журыцца,
Цягнік жа не адзін.
А плачаш так, як быццам
Спазнілася пару гадзін!

# Польска-беларуская крыжаванка № 34-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 30:** Дом, міг, ох, міт, мёд, но, клін, фен, рыба. Лодкамір, імёны, гід, фа, варона.

Узнагароды, новую мадэль кашулькі з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Pióro, Ara, Osika, Rzepak, Proza, Wóz, Pora, Lekarz, Wola, Jezioro, Anioł, As, Prawo, Kadryl, Jak

# Жніва ў Ялоўцы


За касой солтыс Пятро Дамброўскі

Упамежнай Ялоўцы і ў наваколлі беларусаў, праваслаўных засталося няшмат. У асноўным яны сустракаюцца на нядзельных набажэнствах у мясцовай царкве. Не трапляюць сюды беларускія фэсты, арганізаваныя Беларускім грамадска-культурным таварыствам і па-мачашынаму гэтую вёску дасюль трактаваў Гмінны цэнтр культуры ў Міхалове і міхалоўскія ўлады. Няма школы тут ад першай паловы 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Прыгожы гатэль, які знаходзіцца ў будынку, пабудаваным у 1863 годзе, свеціць пустэчай. Ва ўспамінах жыхароў засталіся толькі нарады і раскошныя банкеты, арганізаваныя ў ім прадстаўнікамі Газпрама, як і часы, калі мяжу з Беларуссю можна было ў Ялоўцы пераходзіць без якіх-небудзь сур'ёзных праблем. Таксама для мясцовых беларусаў сапраўдным святам стала «Жніво» — імпрэза з канцэртам мясцовых калектываў і конкурсамі ручной касьбы і ручнога абмалоту. Да касьбы касой стаў нават намеснік падляшскага ваяводы Веслаў Жылінскі, які мае сямейныя сувязі з Ялоўкай.

15 жніўня за косы, сярпы і цапы ўхапіліся жыхары Ялоўкі і ваколіцы па ініцыятыве солтыса Пятра Дамброўскага і міхалоўскага раднага Марыяна Гайдучэні, з удзелам усёй салэцкай рады і Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове. На плошчы каля былога культурнага цэнтра ўсталявалі сцэну, а насупраць — велізарны чыгун з бясплатным гарохавым супам.

— У мінулым годзе, па аб'ектыўных прычынах, мы не маглі арганізаваць гэтага мерапрыемства, але цяпер нам удалося, — са сцэны нагадаў солтыс Дамброўскі гады кіравання ў гміне спачатку войта, а затым бургамістра Марка Назаркі.

І дадаў:

— За апошнія дванаццаць гадоў няшмат у Ялоўцы і ваколіцы было зроблена.

«Ніве» прызнаўся:

— Сапраўдных гаспадарак у Ялоўцы засталося няшмат. Для сапраўднай сельскай гаспадаркі, перш за ўсё, трэба лугі, а лугоў тут не зашмат. Такім чынам, сельская гаспадарка практычна не існуе. Але мы стараемся, каб нагадаць тыя часы, калі гаспадароў у Ялоўцы было сапраўды многа. Механізацыя дайшла сюды з невялікай затрымкай. Раслінаводства ў некаторых месцах да гэтага часу трымаецца, але жывёлагадоўля ўжо не. Часы, калі касілася касой на полі, успамінаем з сантыментам, магчыма, таму, што чалавек быў тады малады. Гэта была цяжкая праца скошвання і прытым цэлых гектараў, а яшчэ пры такой засусе, якая ў час гэтага конкурсу, калі без прамочкі саломы немагчыма звязаць пярэвясла, таму што ломіцца. Мала хто памятае тыя часіны. Сёння камбайн прыедзе, апрацуе за дзень некалькі гектараў: і выкасіць, і абмалоціць... Калісь было цікавей.

## З надвор'ем так заўсёды

Ураджэнец Сейненшчыны віцэ-ваявода Жылыіснкі прыбыў на «Жніво» бездакорна апрануты ў касцюм. Перад тым як выйсці з касой на поле (без летніка), размаўляючы з «Нівай», прызнаўся:

— Я атрымаў запрашэнне на мерапрыемства, таму прыехаў. Агульна, у Ялоўцы бываю ад трыццаці гадоў. З гэтай тэрыторыі, з Буд і Шымак, родам мае цесці — спадарства Салаўі і іх бацькі. Часта я прыязджаў сюды з трыма сваімі дзецьмі да цесцяў. Бацькі жонкі і дзяды майго цесця пахаваны ў двух могільніках у Ялоўцы.

Спаслаўся на засуху:

— Яна кранула пакуль прыкладна дзве трацiны ваяводства, у яравых збожжах і зялёных культурах, у тым ліку і ворныя землі. У 75 гмінах ёсць засуха і там камісіі, прызначаныя ваяводам, ацаняюць шкоды. Нашы дзеянні вызначае адпаведны акт парламента ад 2005 г. пра засуху. Там вызначаецца, як засуха выглядае, і, згодна з ім многія гаспадары не атрымаюць кампенсацыі. У Беластоцкім, Сямятыцкім, Бельскім паветах не ва ўсіх гмінах абвешчаны стан засухі. Ацэньваюцца страты ўраджаю, але адсылаем пратаколы да войтаў, каб ацаніць страты ў плане таго, колькі корму ў выніку засухі гаспадары павінны купіць для ўласнай прадукцыі. Таму


Ніна Цiжынская

кошт кампенсацыі можа падняцца ў два разы. Я разумею, што гэта засуха не ідзе ані паветамі, ані гмінамі ці нават вёскамі, таму што на зямлі чацвёртага класа збожжа выглядае інакш, чым на глебах пятага або шостага класаў. Ехаўшы сюды, я ўсё ж бачыў цюкі скошанага збожжа, таму маем добрых гаспадароў.

Са сцэны прамаўляў: — З надвор'ем заўсёды так: колькасць ападкаў або замалая або завялікая, і гэтыя намаганні землеробаў заўсёды абцяжараны рызыкай надвор'я, не толькі рызыкай канкурэнцыі.

Намеснік бургамістра Міхалова Юры Хмялеўскі адзначыў:

— Наша гміна яшчэ не ахоплена станам стыхійнага бедства, але глядзім наперад і робім усё, што ад нас залежыць, каб падтрымаць гаспадароў. Мы стварылі ва Управе гміны камісію, якая сітуацыі прыглядваецца з клопатам.

Намеснік ваяводы падзяліўся ўспамінамі з удзельнікамі «Жніва»:

— Я памятаю са старых часоў, як аўтобус ПКС з Ялоўкі ў Беласток у нядзелю вечарам ці ў панядзелак раніцай быў такі загружаны, што цяжка было ў яго ўлезці. Я не ведаю, як гэта выглядае цяпер, але шлях у кірунку Беластока маеце прыгожы. Я думаю, што ў бліжэйшы час мяжа ў наммрамку Свіслачы будзе адкрыта. Я памятаю, такі фэст у Ялоўцы з пачатку 90-х, дзе было шмат гасцей з Беларусі, і было файна і весела.

Жыхары Ялоўкі таксама памятаюць гэтую падзею, але і час, калі было лёгка прайсці праз мяжу ў Беларусь. Цяпер бліжэйшы пагранпераход за дзесяць кіламетраў, у Баброўніках. Солтыс Дамброўскі:

— Трэба нам тут мець адкрытую мяжу, узаемны кантакт. Я памятаю тыя дні, калі тут быў пераход у памежную зону і мы выкарыстоўвалі яго неаднойчы. Нам патрэбны такі адкрыты кантакт, асабліва таму, што з абодвух бакоў мяжы жыве шмат раздзеленых мяжой сем'яў, таксама і маёй жонкі. Надалей можна адчуць «праставанне мяжы» Сталіным пасля вайны. З таго, што мне вядома, беларускі бок мае нават тэхнічную базу, мытня здаўна там ёсць, і ёсць шырокая сапраўдная дарога, ледзь не аўтастрада як на нашыя ўмовы. З нашага боку пракладзены толькі провад валаконнай оптыкі. Тым не менш, ці гэты пераход будзе, залежыць ад беларускага боку, галоўным чынам. Я ведаю, што вядуцца адэкватныя перамовы, а ў гмінным узроўні гаворыцца аб такой неабходнасці.

## А цяпер нічога

Жніўны конкурс быў арганізаваны на пшанічным полі Ленаілы Астапчэні, былой шматгадовай настаўніцы ў Ялоўцы і ў Шымках, у тым ліку і беларускай мовы, у цяперашні час засядаючай у салэцкай радзе. Восем гадоў да абрання Пятра Дамброўскага была яна солтысам Ялоўкі. На сваім палетку паявілася ў час конкурсу з унукам, які ў цяперашні час жыве з бацькамі ў Брусэле:

— Жыву ў Ялоўцы ўжо пяцьдзясят гадоў. Калісь жылося весялей, зараз становіцца маркотней, — прызналася «Ніве». — Старыя паміраюць, маладыя людзі з'язджаюць. Калісь я ездзіла на працу ў школе, а з мужам працавалі на гаспадарцы. Цяпер у маім доме прапісаны дванаццаць чалавек: дочкі, зяці, унукі. Яны, усё ж, за мяжой. Мой муж сёлета памёр, так што мне прыйшлося ў гэты раз толькі з сынам сеяць пшаніцу. У мяне ёсць шэсць гектараў і сорак сотак. Вырошчваем авёс або жыта, і прадаем за марныя грошы. Нічога не гадуем. Сеем пшаніцу спецыяльна для курэй, якіх да нядаўняга часу было дваццаць тры, ды ліс нам іх пажэр, і засталося іх толькі пяць. Тут паўсюль лясы і лісоў поўна. Калі дзікі перасталі капаць, пачалі паляваць лісы, а сарны паелі буракі і капусту. І як тут можна штосьці вырошчваць. Няма паляванняў на дзікіх жывёл, а самім нам цяжка іх упільнаваць. Ну, але неяк трэба спраўляцца.


За цэпам радны Марыян Гайдучэня

З сярпом да конкурсу стала таксама іншая тутэйшая беларуска Ніна Цiжынская, родам з Юшкавага Груда. Жыве ў Ялоўцы, таму што каля сарака гадоў таму выйшла замуж за мясцовага:

— Як жывецца? Неяк у адзіночку ўвесь дзень. Муж памёр. Дваццаць два гады, як яго няма. Дзеці павыязджалі. Два сыны жывуць у Беластоку, пад Беластокам дочкі, а яшчэ адзін сын і дачка ў Лондане. Гаспадарка прададзена, бо сын у блоку жыве і ўзносы за кватэру трэба было плаціць і іншае такое, а нікому не хацелася рабіць на зямлі. Мы, свае, беларусы, то тут толькі сустракаемся ў царкве і там па-свойму паразмаўляем. Калісь то мы гулялі, у клуб мы хадзілі. Пажылыя людзі на лаўках перад дамамі сядзелі: размаўлялі, распавядалі штосьць сабе, спявалі... А зараз нічога. Кожны сам у доме і ўсё. Я толькі чакаю нядзелі, каб у царкву пайсці, або ў краму, калі трэба. Нас, беларусаў, праваслаўных тут, у Ялоўцы, нямнога. Беларускіх фэстаў не мае хто нам арганізаваць, самі мы ўжо застарыя, а нашых маладых няма. Калі што запрапанаваць, то пытаюцца ў вёсцы: а каму гэта патрэбнае, нашто? Не хочуць умешвацца. Калі я вучыла беларускай мовы ў Шымках і ў Ялоўцы, у гэтых школах арганізавалі мы па-беларуску выступленні і ў клубе, а ў Ялоўцы спявалі беларускія песні з дзецьмі. Клуб зачынены, школы няма, нічога не адбываецца, а я сама не падзейнічаю.

Намеснік бургамістра Юры Хмялеўскі:

— «Жніва» ў Ялоўцы гэта свайго роду мерапрыемства ў нашай гміне. Рэдка дзе ў нас ёсць такія народныя фэсты, звязаныя з напамінам пра старыя традыцыі, якія знікаюць на нашых вачах, і нават ужо прапалі. Гэта так выглядала жніво, гэта таксама з'яўляецца часткай традыцыі нашай агульнай ідэнтычнасці. Таксама беларушчына выжыла таму, што яна цесна звязана з вёскай, з прыродай, з працай на зямлі. Такая імпрэза гэта таксама магчымасць проста сустрэцца. Былі беларускія фэсты БГКТ на Міхалоўскай зямлі, але не дайшлі да Ялоўкі. Для нас, улад Міхалоўскай гміны, гэта таксама задача, каб пры арганізацыі мерапрыемстваў помніць пра Ялоўку, выклік асабліва перад новым дырэктарам нашага дома культуры, які вельмі адкрыты для мультыкультуралізму. Калі толькі паявіцца адсюль нейкая ініцыятыва, безумоўна, мы падтрымаем яе.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**



# НА ІЛІЮ Ў ПАДБЕЛЛІ

■ Царква ў Падбеллі

2 жніўня па новаму стылі, а 20 ліпеня па старому, Царква адзначае свята прарока Іліі. Афіцыйны царкоўны даведнік: „Żył i wystąpił w charakterze proroka za panowania króla Achaba, który oddając cześć bożkowi Baalowi (słońcu) zmuszał do tego swych poddanych. Aby skarcić Achaba, Bóg posłał do niego proroka Eliasza. Ten przepowiedział królowi, iż za jego nieprawość w ciągu najbliższych lat nie spadnie ani kropla deszczu. Tak też się stało. Po trzech i pół roku posuchy, gdy lud cierpiał głód, na rozkaz Boży prorok ponownie przybył do Achaba. Powiedział wówczas władcy i całemu ludowi izraelskiemu, iż klęski spowodowane są tym, iż ludzie zapomnieli o prawdziwym Bogu. Wezwał też lud, aby zebrał się na górze Karmel i złożył ofiary bożkowi Baalowi i prawdziwemu Bogu. Miało się okazać która z ofiar zostanie przyjęta. Dzięki gorliwej modlitwie proroka została przyjęta ofiara prawdziwego Boga. Spadł deszcz, a lud został nawrócony. Odwołując się do tego wydarzenia wierni modlą się do proroka Eliasza o zesłanie deszczu podczas suszy”. Наш народ уяўляе Нябёсы — цяперашнія і язычніцкія — вялікай канцылярыяй, своеасаблівым Бруселем, з пантэонам чыноўнікаў, дзе прарок Ілія з'яўляецца загадчыкам метэаралагічнага ведамства...

Прарок Ілія з'яўляецца нябесным заступнікам прыхода ў Падбеллі; праўда, даволі маладым заступнікам. Вікіпедыя: „Pierwsza cerkiew we wsi Podbiele koło Bielska Podlaskiego została zbudowana dla miejscowej i okolicznej ludności prawosławnej, prawdopodobnie w XVI wieku. Poświęcona ona została Przemienieniu Pańskiemu. Podania ludowe mówią również o istnieniu cerkwi na wzgórzu w pobliżu wsi Dubiażyn. Z czasem, kiedy kolejne drewniane budynki cerkwi ulegały zniszczeniu lub padały pastwą pożarów, w Podbielu budowano nowe świątynie. Wszystkie one były pod wezwaniem Przemienienia Pańskiego. Ostatnia taka cerkiew, pochodząca prawdopodobnie z XVII w., przetrwała w Podbielu do 1924 r., kiedy to podczas pożaru parafialnych budynków gospodarczych całkowicie spłonęła”. І далей: „Według danych z 1875 r. cerkiew Przemienienia Pańskiego w Podbielu była cerkwią parafialną, a należały do niej, poza wsią Podbiele, następujące miejscowości: Dubiażyn, Koszki, Kozły, Rajki, Malenniki, Zaleszany, Gredele, Szpitale i Mokre. Parafian było 1.612. Odnośnie samego budynku świątyni, wiadomo tylko tyle, że jej zewnętrzny wygląd i ubogie urządzenie wewnętrzne odbiegały od tradycyjnych form cerkwi prawosławnej. Mocno zniszczony budynek wymagał nie tyle remontu, co gruntownej przebudowy. Dlatego też w latach 60. XIX w. zaistniała konieczność budowy nowej cerkwi”. Аўтар гэтага артыкула, мабыць, некрытычна перапісаў нейкія маскоўскія імперскія напрацоўкі. „Традыцыйныя” формы Праваслаўнай царквы былі ўводжанымі пасля задушэння Студзеньскага паўстання чужымі мясцовай трыдцыці мураўёўкамі, якімі царская ўлады разбуралі сапраўды традыцыйныя здабыткі мясцовага дойлідства... „Dnia 17 września 1874 r. proboszczem parafii został mianowany ks. Eliasz Tałyzin, który przed otrzymaniem święceń kapłańskich przez dłuższy czas był urzędnikiem państwowym w Grodnie. Mając bogate doświadczenie w pracy urzędniczej z powodzeniem przystąpił do budowy nowej cerkwi i wkrótce został dziekanem okręgu bielskiego. (...) Budowę cerkwi przyspieszyła wizyta grodzieńskiego gubernatora Aleksandra Zurowa, złożona 19 września 1875 r. właścicielowi majątku Podbiele A.N. Żołtuchinowi. Następnego dnia gubernator był na nabożeństwie w miejscowej cerkwi Przemienienia Pańskiego. Po Św. Liturgii w domu Żołtuchina odbyła się narada, w której poza gospodarzami wzięli udział gubernator z małżonką, powiatowy komendant policji M.S. Timonow oraz zaproszony miejscowy proboszcz ks. Eliasz Tałyzin. (...) W szybkim tempie z Grodna nadszedł projekt drewnianej cerkwi i na miejsce przybył architekt. Okres jesieni i zimy wykorzystany był przez komitet budowy i popieczitielstwo cerkiewne na przygotowanie materiału budowlanego. Wpłynęły nowe ofiary na budowę cerkwi: 500 rubli od gubernatora, 612 rubli i 294 bale drewniane od M.S. Timonowa. 20 kwietnia 1876 r. odbyło się uroczyste położenie kamienia węgielnego pod budowę cerkwi, zaś 1 października tegoż roku Biskup Brzeski Włodzimierz dokonał konsekracji nowej świątyni św. proroka Eliasza w Podbielu”. 1 кастрычніка, паводле юліянскага календара, Царква адзначае свята Пакрова... Супадзенне імён вопытнага царскага чыноўніка-святара і прыходскага заступніка — старазапаветнага ўладара дажджу і засухі, здаецца быць, далікатна кажучы, надта двухсэнсоўным... Гэта толькі мая здагадка, бо ж ёсць і новазапаветнае тлумачэнне: прарок Ілія з'явіўся быў апосталам у момант Праабражэння, разам з Ісусам і Майсеем...

Ужо з раніцы вулачку, пры якой стаіць царква, абставілі шпалеры сталоў з рознай забаўляльнай прапановай. З некаторых сталоў спаглядалі нявінныя цацкі і смакоцці, з іншых — дулы рознай пластмасавай агнястрэльнай зброі — асацыяцыя з Данбасам...

Перад уваходам у царкву стаяла жанчына, якая збірала ахвяраванні на царкоўку ў Збучы. Храм той узводзіцца крыху іншымі тэмпамі чым калісь падбельская царква. Купалы ўжо красуюцца, а крыжы будуць пастаўлены ў нейкай будучыні, паўторна наймаючы будаўнічыя краны...



■ Шэсце ў царкву

Да царквы наблізілася бабулька з мыліцамі. Царкоўная прыступкі надта высокія і пажылая жанчына не магла ўзвесці на іх ног сваімі сіламі; давялося мне дапамагчы ёй. І падумалася мне пры гэтай нагодзе, што наш мітрапаліт Сава ўжо таксама пажылы, ягонае здароўе не вечнае і можа неўзабаве быць так, што лягчэй будзе вярблюду ўвайсці ў игольнае вуха, чым нашаму першастаяцелю ў падбельскую царкву...

Жанчынам, здаецца, наканаваны клопат пра сямейныя справы. І яны ў гэтых справах адчуваюць сябе як рыба ў вадзе, ахвотна грабуцца ў іх, як курачкі ў пясочку і ведаюць, хто з кім, дзе і калі. Вось і гэтыя дзве жанчыны ўмомант раскрылі перад сабою свае сакрэты. І аказалася, што ў іх процьма супольных знаёмых і сваякоў.

На свята прынесла сваю сонечную ўсмешку Барбара Гаральчук, прапануючы сваім прыхаджанам (яна родам з недалёкага Мокрага) сваю свежанькую кніжку — запіс сямейных успамінаў пра бежанства. Папярэдняга дня прапанавала яе ў Мельніку; там людзі цікавіліся кнігай, некаторыя ўпершыню даведаліся пра прыцішаныя цягам доўгіх гадоў пакуты нашых продкаў. І тут, у Падбеллі, таксама шмат хто купіў кнігу пра нашу агульную сямейную гісторыю стогадовай даўнасці.

Калі я стаяў перад ларкамі з гаючымі духоўнымі і зёлкавымі фактарамі, зачапіў мяне мужчына спелага ўзросту, пытаючы, дзе знайсці краму з гаючым смагу півам. Я адказаў, што такая крама ёсць у Дубяжыне. Але ж не, у свята яна закрыта, а ў мінулым годзе такая крама працавала акурат у фэставым гандлёвым комплексе...

Народ наплываў на царкоўны пляц даволі памяркоўна і натоўп вернікаў пастаянна буйнеў. Свята ў гонар старазапаветнага Іліі здалося мне толькі фармальнай нагодай для аднаўлення асабістай памяці. Тут я спаткаў знаёмых выхадцаў з Падбельскага прыхода з Малінпік і Градалёў. Са здзіўленнем заўважыў я таксама майго варшаўскага аднакурсніка, родам з Краснага Сяла, якога я зусім там не спадзяваўся. Аднак паінфармаваў ён мяне, што на падбельскае свята з'яўляецца ён пастаянна з самых маладых гадоў. Царква, вядома, не змясціла ўсіх прыбылых, таму людзі стаялі навонкі, хаваючыся дзе хто ад раскаленага сонца. Сёлета свята выпала ў нядзельку, то і людзей сабралася шмат — усіх тых, што там выраслі, пацягнула ў бок родных гнёздаў. Гэта той народ, які наведваў навакольныя школы, хадзіў на навакольныя забавы, пазнаваў з мясцовай перспектывы свет. Хто ведае, ці чарговыя пакаленні, якіх карані з Падбельскага прыхода, будуць адчуваць такую ж повязь з радзімай продкаў... Хто ведае, як мнагалюдныя будуць падбельскія прыходскія святкаванні за дваццаць-трыццаць гадоў, бо ж мнагадзетныя калісь школы апусцелі. І ці, калі святкаванні захаваюцца, будуць яны напамінаць тыя, якія праводзяцца тут здавён-даўна; бо ж невядома, ці пасля масавых цяперашніх міграцый будучыя насельнікі нашага старонні захаваюць абрады „tradycyjnych form cerkwi prawosławnej”...

Асвоеасаблівую традыцыю, пакуль што, захоўваюць нашы прапаведнікі. Вось і ў сёлетняе свята ў гонар прарока Іліі, акурат у стагоддзе трагічнага бежанства, прапаведнік у Падбеллі не забыў апавясціць народу, што зло выходзіць з Захаду, быццам на Усходзе адно дабро. Рыхтык як сто гадоў таму, калі тадышнія прапаведнікі вывелі мясцовае насельніцтва ў чужыну, каб імперскае начальства не страціла гарматнага мяса. Нашы мудрыя прапаведнікі надалей верна служаць Кесару, забыўшыся пра апакаліпсіс, які „вялікі Ільіч” згатаваў іхнім папярэднікам. І забыўшыся пра самога прарока Ілію, які служыў Госпаду, а не цару Ахаву.

Уходзе літургіі званы акампаніравалі спеву Сімвала Веры. Але калі вернікі спявалі Малітву Гасподнюю, званы маўчалі, затое з боку гандлёвых прылаўкаў раздалася серыя з пістонаў, завершаная выбухам бадай невялічкай петарды. Можа былі гэта выпадковыя раскаты, а можа і не — у славянскай жа традыцыі Ілія валодае громам. А можа была гэта толькі звычайная жыццёвая сумесь *sacrum* з *profanum*.

Пакідаючы свята, накіраваўся я ў той бок, дзе калісь стаяла апошняя падбельская Праабражэнская царква. Зараз за гандлёвым „супермаркетам” размясцілася і мабільная крама з тым таварам, пра які раней пытаў мяне сасмаглы мужчына. І народу там было шмат, і весяліўся ён хіба не менш, чым славутыя госці ў Кане-Галілейскай...

Царкоўны даведнік: „Najczęściej przedstawianą sceną z życia proroka jest wniebowzięcie Eliasza na ognistym wozie zaprzężonym w skrzydlate *rumaki*”. Гданьская Біблія: „I wstąpił Elijasz w wichrze do nieba” (IV Regum 2:11). Калі я вяртаўся з Падбелля ў Бельск, па жвіроўцы абганялі мяне бадзёрыя механічныя *rumaki*, паднімаючы хмары пылу, рыхтык як на найбольш папулярных іконах з вывай прарока Іліі.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Беласток прадае па-беларуску

**Беларуская мова штораз часцей выкарыстоўваецца ў гандлёвай прасторы Беластока. Маркеты з харчовымі прадуктамі, тур-фірмы ці рэстараны ўводзяць беларускую мову дзеля таго, каб прывабіць кліента з-за ўсходняй мяжы. Вядома, што тыя, не зважаючы на візавыя абмежаванні ці цяжкую дарогу, а нават пагрозы кіраўніка беларускай дзяржавы, масава прыязджаюць у сталіцу Падляшша. А сустракаюць іх тут не толькі больш атракцыйныя цэны тэлевізараў ці вопраткі, але перш за ўсё мова, якой часта грэбуюць не толькі на роднай Беларусі.**




Паводле Сашы, беларуса, які прыязджае ў Польшчу па пакупкі, на працягу апошніх тыдняў цягнікі з Беларусі перапоўненыя, а квіткі на прыгранічныя маршруты трэба купляць загадзя. Як падкрэслівае Кацярына Здановіч з Памежнай службы ў Беластоку, сёлета за паўгода мяжу на памежным пераходзе ў Кузніцы пераехала 980 тысяч беларусаў. У Баброўніках — амаль 531 тысяча. Паводле яе слоў, колькасць прыезджых павялічваецца ў выхадныя дні.

Аналагічныя тэндэнцыі назіраюць таксама супрацоўнікі Мытнай службы ў Беластоку. Як патлумачыў „Ніве" Мар'юш Сітнічук, у першай палове гэтага года на памежных пераходах у Кузніцы і Баброўніках колькасць зарэгістраваных дакументаў Tax Free складае 558 тысяч.

— На іх аснове падарожнікі, у асноўным грамадзяне Беларусі, правозілі тавары на агульную суму 479,2 мільёна злотых, — кажа Мар'юш Сітнічук. — У параўнанні з 2014 годам відаць рост колькасці рэгістраваных дакументаў Tax Free.

Паводле працаўнікоў Мытнай службы беларусы, якія ездзяць па пакупкі ў Польшчу, найчасцей купляюць бытавую хімію, будаўнічыя матэрыялы і электроніку. Беручы пад увагу шматлікасць пакупнікоў з Беларусі, уласнікі гандлёвых цэнтраў выходзяць ім насустрач. Нікога ўжо не здзіўляюць надпісы на расійскай мове, аднак на беларускай гэта яшчэ не паўсюдная з'ява.

У адным з рыбных рэстаранаў у буйным гандлёвым цэнтры горада з'явілася меню на польскай і беларускай мовах. Гэта прыемная нечаканасць для пакупнікоў з Беларусі.

— Гэта вельмі цешыць, што можна прачытаць меню на роднай мове, — кажа Люба. — Добра, што палякі не забываюць пра нас, беларусаў. Мы не горшыя.

Пакупнікі з-за ўсходняй мяжы, якія бачылі беларускамоўнае меню ў рэстаране, пад вялікім уражаннем.

— Гэта вельмі добра, больш зразумела для турыстаў, для беларуса, нават для расіян, — кажа Саша. — Яны ўсе ведаюць беларускую мову. Дзякую, што ёсць беларуская мова ў Польшчы.

Таксама адзін з буйных падляшскіх аўтаперавозчыкаў на сваім сайце паведамляе патэнцыйных кліентаў пра паслугі на беларускай мове. Што цікавае, гэты аўтаперавозчык у сваёй распісцы маршрутаў не мае курсаў на Беларусь, а толькі па Падляшшы. Дзякуючы таму і беларусы Беласточчыны могуць пераканацца, што родная мова не толькі хатняя. На сайце аўтаперавозчыка можна знайсці інфармацыю як наняць аўтобус, калі і як даехаць, дзе прыпынкі, з Беластока ў Бельск-Падляшскі ці Саколку. Побач англійскай, французскай ці іспанскай моў, можна прачытаць усе інфармацыі на беларускай мове.

Беларусы з'яўляюцца частымі пакупнікамі сантэхнікі. Самы папулярны гандлёвы цэнтр будаўнічых матэрыялаў заахвочвае кліентаў з-за ўсходняй мяжы па-беларуску. У цэнтры распаўсюджваюцца лістоўкі з прапанаванымі ім таварамі таксама на беларускай мове.

— Я пабудаваў амаль цэлую хату, купляючы матэрыялы ў Беластоку, — кажа Васіль з Ваўкавыска. — Тавары тут таннейшыя, лепшай якасці, ну і ёсць з чаго выбіраць.

Кожны, хто хаця крыху арыентуецца ў сённяшняй палітычнай і грамадскай сітуацыі ў Беларусі, мог бы паставіць пытанне: „Чаму польскія прадпрымальнікі пачынаюць выкарыстоўваць якраз беларускую мову?". Вядома, што калі ідзе пра гэтую частку грамадскай прасторы, беларускі гандлёвы сусвет часцей выкарыстоўвае расійскую мову. На думку намесніка кіраўніка рэстарана, у якім меню па-беларуску, гэта добры спосаб, каб прыцягнуць кліентаў з-за мяжы.

— Маем вельмі многа пакупнікоў з Беларусі. Хочам, каб яны свабодна адчувалі сябе ў нашым рэстаране, — кажа Магдалена Васілюк. — Меню можа іх заахвоціць да гэтага, каб прыйсці да нас. Некаторыя людзі саромеюцца падысці і спытацца пра нейкую страву ці прадукт. Тут для іх усё будзе зразумелым. Але з другога боку, — дадае спадарыня Васілюк, — ведаючы пра гэта, што на Беларусі часцей выкарыстоўваецца расійская мова, мы насуперак гэтаму хочам трапіць да беларусаў на іх роднай мове.

Магчыма, Беласток пачынае вызначаць кірункі не толькі калі ідзе пра вопратку, бытавую тэхніку, тавары і паслугі, але таксама і моду на беларускую мову. Трэба спадзявацца, што ўслед за гандлёвымі цэнтрамі ў Польшчы пойдуць і беларускія прадпрыемствы. Магбыць, тады само жыццё вымусіць, што беларуская мова перастуціць музейна-фальклорныя парогі.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

---

Уладзімір Ліпскі

Владимир Липский
Биография
Vladimir Lipsky
Biography

# http://lipskivs.by

Дзіцячыя пісьменнікі падаюцца людзьмі даволі арыгінальнымі і абавязкова таленавітымі. Сапраўды, цяжка зразумець, як дарослы чалавек, нават калі ён мае педагагічную адукацыю, можа мысліць дзіцячымі вобразамі і ўяўленнямі, і да таго ж выкладаць усё так, каб было цікава менавіта дзецям.

Адной з такіх цікавых асоб можна назваць галоўнага рэдактара адзінага ў Беларусі беларускамоўнага часопіса для дзяцей і школьнікаў „Вясёлка" Уладзіміра Ліпскага. Каб даведацца пра літаратара больш падрабязна, варта зазірнуць на яго ўласны сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе http://lipskivs.by.

Інтэрнэт-бачына Уладзіміра Ліпскага зроблена даволі проста, але і даволі прывабна. З галоўнай старонкі на нас глядзіць яе ўладальнік, які прадстаўлены адразу ажно трыма сваімі партрэтамі. Ніжэй размешчаны тэксты аб некаторых важных падзеях яго жыцця, а з левага боку — выйсці на біяграфію, што падаецца па-руску і па-англійску. Ну, а каб даведацца нешта аб жыцці і творчасці Ліпскага па-беларуску, варта адкрыць старонкі, выйсці на якія размешчаны таксама злева, але крыху ніжэй.

„Любоў да жыцця, уменне даражыць кожным днём, сустракаць яго, як свята, Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі нясе праз гады. „Што раблю? — Жыццё люблю!" — шчыра, з маладым запалам піша ён. І маладосць сапраўды з ім. Пісьменнік у віры жыцця", — так апісвае літаратара літаратуразнаўца Маргарыта Яфімава, артыкул якой размешчаны ў рубрыцы „Біяграфія".

За доўгі час сваёй працы Уладзімір Ліпскі неаднаразова ўзнагароджваўся разнастайнымі граматамі, а таксама ў 2007 годзе ордэнам Францыска Скарыны. І гэта не дзіўна, калі ўлічыць, што ён аўтар звыш 60 кніг, а многія яго творы ўключаны ў школьныя падручнікі і перакладзены на іншыя мовы: рускую, нямецкую, літоўскую, украінскую. Пра гэта вядзецца гутарка на старонцы „Візітка". Дарэчы, цэлы пералік кніг Ліпскага месціцца на старонцы „Бібліяграфія". Цікава, што ўсе яны, акрамя адной, напісаны па-беларуску. Да рускай мовы Ліпскі звярнуўся толькі нядаўна, выдаўшы апошнюю кнігу ў 2013 годзе.

„Я люблю цябе, мой дружа, ганаруся тваімі поспехамі. Сумна, што часам тыя, хто кіруе культурай, не заўважаюць, хто ззяе ў ёй зоркай першай велічыні. Ты таксама зорка. Твая кніга „Мама. Малітва сына" можа стаць побач з узорамі сусветнай паэзіі. Менавіта не прозы — высокай паэзіі. Я чытаю яе і плачу. Не таму, што пад старасць стаў сентыментальным. Ад вялікай праўды жыцця", — гэтыя словы пісьменніка Івана Шамякіна да Ліпскага размешчаны на старонцы „Перапіска, водгукі".

Як бачым, Уладзімір Ліпскі літаратар шматгранны, піша кнігі не толькі для дзяцей, але і „для ўсіх і кожнага", пра што сведчыць аднайменная рубрыка. Але дзіцячыя творы, па ўсім відаць, яго ўлюбёныя. Гэта, дарэчы, вынікае з ацэнкі, якую Ліпскаму даў Рыгор Барадулін: „Скачыце, зайчыкі і ліскі, / З настроем будзьце, таты, мамы. / Няхай жыве Уладзімір Ліпскі — / Сярод дзяцей дарослы самы!".

У сёлетнім маі Уладзіміру Ліпскаму споўнілася 75 гадоў. Пра гэта пішацца на старонцы „Сённяшні дзень пісьменніка", якая адначасова з'яўляецца галоўнай.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

---

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА
ДАТА З КАЛЕНДАРА

Мастак трох народаў

# 155 гадоў з дня смерці Канута Русецкага

Мастак Канут Русецкі, творчая спадчына якога належыць адразу тром народам — беларускаму, польскаму і літоўскаму, нарадзіўся 20 студзеня 1801 г. у мясцовасці Сцебякі каля Панявежы (цяпер Сцебякяй). Паходзіў ён са збяднелай шляхецкай сям'і віленскага суддзі Яна Русецкага і Тарэзы з роду Рамановічаў. Пачатковую адукацыю атрымаў у бернардынскай школе ў Трашкунах у 1809-1815 гг. У 1816 г. пачаў вучобу ў Віленскім універсітэце — спачатку на факультэце права, таксама вучыўся архітэктуры на фізіка-матэматычным факультэце. У 1818 г. паступіў у школу мастацтваў пад кіраўніцтвам Яна Рустэма і з гэтага часу прысвяціў сябе мастацтву. Займаўся таксама скульптурай у Казіміра Ельскага. Дэбютаваў на першай выставе вытанчаных мастацтваў у Вільні ў 1820 г. У час вучобы ва ўніверсітэце быў звязаны з філаматамі. Пазней навучаўся ў Парыжы (1821-1822) і з 1823 г. у Рыме ў Акадэміі св. Лукі. У час вучобы ў Рыме быў нефармальным лідарам мясцовых польскіх артыстаў, першым прадставіў праграму польскага рамантычнага мастацтва. Вярнуўшыся ў Вільню ў 1831 г., даваў прыватныя ўрокі малявання. У 1834 г. стаў настаўнікам у віленскім дваранскім пансіёне пры гімназіі, пазней у Дваранскім інстытуце. У яго класе першыя ўрокі выяўленчага мастацтва атрымалі Альберт Жамет, Альфрэд Ромер, Тадэвуш Гарэцкі, Ян Зянкевіч, Вікенцій Леапольд Сляндзінскі. Асабісты лёс Канута Русецкага склаўся — ён быў жанаты з Антанінай Чарвінскай, меў пяцярых дзяцей — Ганну, Баляслава, Тадэвуша, Міхала і Праспера. Сын Баляслаў, які нарадзіўся ў Рыме, пазней таксама стаў вельмі вядомым мастаком, які працаваў у Беларусі. Пэўны час ён жыў у Гародні, зрабіў шэраг размалёвак у гарадзенскіх касцёлах, у прыватнасці алтарную карціну „Святы Казімір" у гарадзенскай фары.

Канут Русецкі пісаў карціны на рэлігійныя тэмы, пейзажы і акварэльныя партрэты. Таксама капіяваў італьянскія палотны, паўтараў мастакоў італьянскага Рэнесансу. У час вучобы за мяжой пісаў творы з мифалагічнымі і рэлігійнымі матывамі, партрэты, рымскія пейзажы. У сваіх карцінах выкарыстоўваў выразны малюнак і гладкую паверхню. Аўтар твораў „Італьянец, які ўсміхаецца", „Клятва карбанарыяў", „Уцёкі ў Егіпет", аўтапартрэта, партрэта сына Баляслава, „Жняя", „Партрэт бацькі", „Літоўка з вербамі", „Літоўская рыбачка", „Млын Патоцкага ў Поплавах", „Селянін з венікамі" і іншых. Ажно 330 яго твораў захоўваецца ў Літоўскім мастацкім музеі і экспануецца ў Віленскай мастацкай галерэі. У кафедральным саборы свсв. Станіслава і Уладзіслава ў Вільні знаходзяцца тры вялікія карціны Русецкага — „Звеставанне Найсвяцейшай Багародзіцы", „Уцёкі ў Егіпет", „Тайная вячэра". У час кансервацыйных работ у 1927 годзе высветлілася, што цяперашняя скрыжаваныя далоні выявы Божай Маці Вастрабрамскай — вынік абнаўлення абраза, выкананага Русецкім.

Памёр Канут Русецкі 21 жніўня 1860 г. у Вільні. Пахаваны на Бернардынскіх могілках, што ў мікраёне Зарэчча. Пасля смерці мастака яго сын Баляслаў захаваў майстэрню, а ў 1913 г. перадаў творы бацькі ў віленскі музей. Невядомы лёс большай часткі вялікіх карцін з прыватных калекцый, а таксама раскіданых па літоўскіх касцёлах твораў. Па меркаванні Уладаса Дрэмы, аўтара біяграфіі мастака, знікла значная частка твораў Русецкага ці, прынамсі, лёс многіх з іх невядомы.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**




**ПРАГРАМА**

**субота, 22 жніўня**

дыскусія / Каўказская сінагога – вул. Ю. Пілсуцкага 5
мадэратар: Мікалай Ваўранюк

**культура** / гадзіна 9:00 10:00 – 11:30
Анда Ротэнбэрг (PL), Юрка Хмялеўскі (PL), Міхал Анемпадыстаў (BY)

**літаратура** / гадзіна 12:00 – 13:30
Міхал Андрасюк (PL), Ян Каміньскі (PL), Віктар Сазонаў (BY)

**палітыка** / гадзіна 14:30 – 16:00
Алесь Бяляцкі (BY), Антон Мірановіч (PL), Марыюш Машкевіч (PL)

**мастацтва** / гадзіна 17:00 / Галерэя Крынкі – вул. Ю. Пілсуцкага 6
Дамінік Лейман (PL) „Grodzenie”
Марыюш Таркавян (PL) „Krynki – obrysowane”

**музыка** / гадзіна 18:00 – 22:00 / Алея пры Каўказскай сінагозе
Ультрамарын (UA), Агата (BY), Вагоновожатые (UA)

**пятніца – субота, 21-22 жніўня**
мовазнаўчыя і шаўкаграфічныя семінары
гадзіна 10:00 – 18:00 / Гмінны асяродак культуры ў Крынках – вул. Гродзеньска 7
Агата Борова

# ЗАПРАШЭННЕ

## 23 ЖНІЎНЯ 2015 ГОДА
### ПРАГРАМА ВАЯВОДСКІХ СВЯТКАВАННЯЎ 100-Й ГАДАВІНЫ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ:

**Ягуштова Бельскай гміны**

**9.00** Святая Літургія ў прыхадской царкве св. Іаана Багаслова

**10.30** Экуменічная малітва на ваенным могільніку за палеглых салдат і памерлых бежанцаў, ускладанне вянкоў

**Бельск-Падляшскі — Студзіводы**

**11.30** Экуменічная малітва на ваенным могільніку за палеглых салдат і памерлых бежанцаў, ускладанне вянкоў (вул. Студзіводская)

**12.15** Адкрыццё шляху Усходняга фронту Першай сусветнай вайны

**12.30** Гістарычная інсцэніроўка выезду ў бежанства ў жніўні 1915 г.

**13.30** Гістарычная інсцэніроўка вялікай бітвы за Бельск у жніўні 1915 г. (спортпляцоўка па вул. Сасновай)

*„Ніва” трымае медыйны патранаж над святкаваннямі.*

# Галерэя «Арсенал» запрашае

Галерэя «Арсенал» у Беластоку запрашае на выставу ZBIÓR/ЗБОР, якая адбудзецца ад 28 жніўня да 15 верасня 2015 г. у сядзібе галерэі ў Беластоку (вул. Міцкевіча, 2) у рамках Фестывалю «Усход культуры / Іншае вымярэнне» ды на паказы перформенсу з Беларусі, якія адбудуцца 27 жніўня ў Галерэі «Арсенал-электрастанцыя» (вул. Электрычная, 13) таксама ў рамках гэтага ж Фестывалю з удзелам Аляксандра Краўчанкі, Наталлі Лісоўскай, Віктара Пятрова, Сяргея Ждановіча, сустваральнікаў легендарнага Міжнароднага фестывалю перформенсу «Навінкі».




*ЗБОР* гэта дакументацыя сарака самых важных мастацкіх выразаў беларускага сучаснага мастацтва з 1991-2015 гадоў. Арганізацыя экспазіцыі стала магчымай дзякуючы матэрыялам, сабраным *Даследчыцкай платформай беларускага сучаснага мастацтва КАЛЕКТАР* (kalektar.org). Выстава з'яўляецца своеасаблівым, публічна даступным падручнікам беларускага мастацтва апошніх дзесяцігоддзяў. *ЗБОР* мае таксама выконваць функцыю ўніверсальнага фундамента для далейшых дэталёвых даследаванняў у галіне сучаснага мастацтва Беларусі. У выніку створаны ўнікальны для Усходняй Еўропы праект, змяшчаючы дэталёвую, прафесійную інфармацыю пра найбольш важныя заявы беларускіх мастакоў апошніх гадоў.

*Даследчыцкая платформа беларускага сучаснага мастацтва КАЛЕКТАР* была створана ў 2014 годзе па ініцыятыве беларускіх мастакоў Сяргея Кірушчанкі, Сяргея Шабохіна і Аляксея Барысенкі для збору і архівавання матэрыялаў і захавання бесперапыннасці ведаў аб сучасным мастацтве Беларусі. Дырэктарам праекта *ЗБОР* з'яўляецца адзін з вядучых мастакоў Беларусі Сяргей Кірушчанка.

Вернісаж выставы *ЗБОР* — 28 жніўня ў 18 гадзін, паказы перформенсу з Беларусі — 27 жніўня ў 18 гадзін. «Ніва» трымае медыйны патранаж над падзеяй.

**(мах)**

# Адгаданка

1. пяты, „вугальны” перыяд палеазою, 2. гарызантальная дошка, прымацаваная да хатняй сцяны, 3. пpoліў з Міжземнага ў Мармуровае мора, 4. запруда, 5. ежа, 6. металічны або пластмасавы кружок, які замяняе манету, 7. зацвітае ў купальскую ноч, 8. працэс выпуску кніг, які ў ВКЛ увёў Францыск Скарына, 9. карысць, прыбытак, 10. пяць тузінаў, 11. не сон, 12. румынская песня, 13. верхняя або ніжняя частка вуснаў, 14. раённы горад на Мухаўцы, 15. самец каровы, 16. птушка атрада вераб'іных з цёмным апярэннем.

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | 2 | | | | | | | | |
| | | | 3 | | | | | 4 | | | 5 | 6 | | | 7 |
| | | 8 | 9 | | 10 | | | | 11 | | | | 12 | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | |
| 13 | | | | | 14 | | | | | 15 | 16 | | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прымаўка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 31 нумара**

Ажына, кара, ніз, Поці, чэк, шынель, юрта.

Рашэнне: **Іншы раз не рэчка топіць, а калюжына**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 23.08 — 29.08

**(22.03. — 20.04.)** Паспрабуй змяніць свой лад жыцця. Не займайся справамі іншых людзей: няхай яны самі разбіраюцца са сваімі праблемамі. Не давай блізкім сябрам і знаёмым ніякіх парад, бо абавязкова абвінавацяць цябе ва ўсіх сваіх промахах і стратах. 29.08. пераканаешся, хто стаіць за табою, а хто толькі прытвараецца.

**(21.04. — 21.05.)** Чакае цябе многа прыемнасцей, якія зарадзяць твае акумулятары. Узбуджэнне і нецярпенне, з якімі ты гатовы фінансаваць любую ідэю, могуць прынесці табе сур'ёзныя праблемы. Неабходна засяродзься на будучых мэтах і шляхах іх дасягнення. 23-24.08. магчымы канфлікт з бацькамі ці кіраўніцтвам.

**(22.05. — 22.06.)** 23-24.08. спакойна ідзі на аперацыю. 24-28.08. добра ацэніш сітуацыю і дойдзеш да добрых высноў. Прыйшоў час рэалізаваць свае старыя планы. Вырашаюцца пытанні тваёй кар'еры, не ўпусці ўдалага моманту. Супрацоўніцтва прынясе табе вялікую выгаду. Выдатны час для змены або дапаўнення свайго гардэроба. Не купляй танных рэчаў.

**(23.06. — 23.07.)** 25-29.08. будзеш самаўпэўнены і пераканаеш да сябе нават тых, хто ў цябе не верыў. Добры час для пераезду ў новае жыллё. Варта па магчымасці адкласці службовую камандзіроўку, прызначаную на панядзелак. Вечар у аўторак добры для любові і рамантычных сустрэч. Галасуючы на абочыне, не стой занадта блізка да праезджай часткі дарогі і ўважліва сачы за рухам машын, а лепш за ўсё скарыстайся грамадскім транспартам.

**(24.07. — 23.08.)** 25-29.08. сума, якую ты збярэш, будзе большая чым спадзяваўся. Але 29.08. можа быць нейкая трывога звязаная з тваімі фінансамі. Усе падзеі падвергні абдайнаму аналізу. Разгледзь сітуацыю з усіх бакоў. Не дазваляй пачуццям мяшаць у тваёй прафесійнай дзейнасці. Увесь тыдзень будзе рызыка звязаная з агнём і электрычнасцю. Каб зберагчы хату ад пажару, развядзі ў двары невялікае вогнішча. Калі яно згарыць, збяры попел і рассып яго ва ўсіх чатырох кутах свайго дома, прамаўляючы замову: «Тое, што аднойчы ў попел і ў пыл абярнулася, у попел і ў пыл не абернецца зноў».

**(24.08. — 23.09.)** Вельмі добрыя кампанейскія лады (24-28.08.) прынясуць плён у некалькіх сумесных ініцыятывах. Дзякуючы сіле сваёй індывідуальнасці, здабудзеш павагу атачэння. Да 27.08. вельмі добра ладзяцца ў цябе новыя знаёмствы. Калі ў панядзелак у тваёй кватэры з раніцы пачнуць моцна рыпаць дзвярныя завесы, а да поўдня рыпанне спыніцца, гэта прадвесціць вялікі сямейны скандал.

**(24.09. — 23.10.)** Калі не паклапоцішся пра сваё здароўе неадкладна, то ў далейшым будзеш мець з ім больш сур'ёзныя праблемы. 29.08. нервова. Для збаўлення любога болю і хваробы пашмаруй хлеб сваёй слінай і прамоў такія словы: «Цар хлеб, вазьмі мой грэх, вазьмі маю хворасць, вазьмі мой боль». Пасля аддай з'есці гэты хлеб двароваму сабаку. Панядзелак: расклад у фінансавай сферы цалкам залежыць ад хуткасці твайго мыслення і лагічнасці высноў.

**(24.10. — 22.11.)** З 28.08. (да 31.08.) будзеш мець вялікае шчасце ў фінансах. 29.08. праблемы ў пачуццях і ў сяброўскіх адносінах; не з усімі ўдасца табе дагаварыцца. Магчымы сумесныя праекты з тваімі былымі ворагамі і канкурэнтамі. Выкарыстай да максімуму ўсе свае рэзервы і сілы, каб атрымаць тое, што табе прызначана самім лёсам.

**(23.11. — 22.12.)** 25-29.08. схіліць цябе да некалькіх адважных інвестыцый, дзякуючы якім можаш мець немалыя прыбыткі. 29.08. не старайся даходзіць да паразумення з кімсьці, бо цяжка будзе з кампрамісам, а выяўленыя справы могуць збіць цябе з панталыку. Добра закручвай краны.

**(23.12. — 20.01.)** Да 27.08. падмацоўвае цябе гаспадарлівая Дзева. 24-28.08. не падмануць цябе салодкія слоўцы. Будзеш ісці проста да праўды, хутка адкрываючы, хто ў адносінах да цябе несумленны. На гэтым тыдні атрымаеш адказ на важнае для цябе пытанне і зможаш лёгка маніпуляваць іншымі.У панядзелак магчымы лёгкі апёк ад запалкі, цыгарэты, чайніка або праса; будзь асцярожны з агнём і гарачымі прадметамі.

**(21.01. — 19.02.)** 23-24.08. вельмі дбай аб сваё сэрца і крывяны ціск. 29.08. моцна дакучыць табе поўня Месяца; хацеўшы над усім мець кантроль, будзеш прымушаны адмовіцца ад некаторых планаў. Сем разоў падумай, перш чым аддаць у чужыя рукі свае зберажэнні. Калі ў цотны дзень тыдня (аўторак, чацвер, суботу) тваё люстэрка трэсне ў момант, калі будзеш у яго глядзецца — чакае цябе вялікае няшчасце.

**(20.02. — 21.03.)** Прысвяці як найбольш часу сябрам, імпрэзы ўдадуцца, а ты даведаешся чагосьці, што цябе здзівіць. 29.08. у час поўні Месяца не зрабі чагосьці, чаго будзеш шкадаваць. Тыдзень вельмі насычаны, удалы і плённы. Але пазбягай вялікага фізічнага напружання. І наогул будзь больш памяркоўным.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# У палескай глыбінцы (10)

Я спадзявалася, што ў асобе айца благачыннага пабачу прыгорбленага аскета з доўгай барадой і суровым воблікам. Айцец Павел меў падстрыжаную бародку, быў надзвычай стройны, прылюдны і адначасова чуткі. Моўчкі абмеркаваў кожнае слова. Я патлумачыла, якім ветрам прывеяла мяне ў Свіцязь ды прадставілася:

— Мяне завуць Ганна...

— Анна, — паправіў манах.

Да гэтай пары ніхто не перайначыў майго імя, наадварот, палешукі, калі чулі слова «Ганна» сардэчна заўсміхаліся і казалі: *Моя баба тожэ Ганна.* Я ведала, што ў патрыярхальнай грамадскасці толькі старэйшыя жанчыны мелі права на аўтарытэт, таму параўнанне з роднай бабуськай гучала як камплімент і дазваляла на больш адкрыты кантакт. У манастыры належыць захаваць тактоўную дыстанцыю, таму праўку айца Паўла я палічыла славянска-царкоўнай фармальнасцю. Як большасць палескіх парафій, Свіцязскі манастыр належаў Маскоўскаму патрыярхату.

Айцец Павел не спытаў мяне пра патрыярхат і не праверыў дакументаў. Ён запрасіў спыніцца ў манастыры і адразу паклікаў на абед, які быў назначаны на першую гадзіну. Каб хоць крыху адплаціцца за гасціну, я прапанавала сваю дапамогу на кухні. Айцец благачынны быў занадта інтэлігентнай асобай, каб кіраваць журналіста ў кухонныя закавулкі:

— Вы ж з далёкай дарогі! — сказаў ён спакойна і надзвычай ветліва, але ў гэтым адчуваўся загад: вам адпачыць трэба! — Схадзіце на возера!

* * *

Возера Свіцязь ціха шархацела хвалямі і чаравала празрыстай чысцінёй вады. Пясчаны ясны бераг лагодна акунаўся ў блакітна-шэрыя тоні. Перад вачыма віднела аброслая лесам выспа, на якой гнездавалі рэдкія віды балотнага птаства. Каб дабрацца на востраў, патрэбны спецыяльны дазвол дырэктара Шацкага нацыянальнага прыроднага парку. Мая цікавасць была ўжо часткова задаволенай — чучалы гарнастаяў, балотных чарапах і чорных буслоў я пабачыла ў школьным музеі ў Шацку. Праўда, пасля музея я спадзявалася тут першабытнай прыроды.

На месцы прывітала мяне засмечаная, абстаўленая муравамымі буданамі набярэжная. Каб не згубіць захаплення возерам, я ўпарта глядзела на зялёны востраў і думала пра гарнастаяў. У далечыні плаваў чорны статак качак паганак. Лагоднасць і цішыня азёрнай вады напамінала атмасферу манастыра. Свіцязь — самае глыбокае возера Украіны. Яго глыбіня сягае больш за 58 метраў і з-за гэтай акалічнасці яго называюць «украінскім Байкалам», або «ўкраінскім Балатонам». Як не дзіўна, тут як агню пазбягаюць параўнання з беларускай аднайменніцай. Украінцы свята вераць, што Адам Міцкевіч апісаў, менавіта, іх Свіцязь! На самой справе паэт мог ехаць праз Валынскае Палессе ў госці да брата, які настаўнічаў у Крамяныць пад Луцкам. Ён мог заначаваць у сядзібе Браніцкіх і наслухацца аповедаў пра азёрныя з'явы і чарадзейны талент мясцовых прыгажунь. Такой выпадковасці аднак пярэчаць факты. Палескі Свіцязь, як належыць патрыярхальнай староне, мужчынскага роду і міфічная апякунка месца «Свіцязянка» тут не падыходзіла ні ментальна, ні граматычна. Ды беручы пад увагу багацце азёраў у наваколлі, нягледзячы на вялікія памеры Свіцязі з плошчай 25 кв. км, даўжынёй — 9,3 км, шырынёй на 8 км, возера заставалася ананімным і безыменным. Першыя запіскі пра існаванне возера сустракаем толькі напрыканцы XIX стагоддзя.

Тым часам набліжаўся час манастырскай трапезы.

* * *

Манастырскі абед найбольш смакавіта апісаў Фёдар Дастаеўскі ў «Братах Карамазавых», дзе посны стол угінаўся ад асятроў і заморскіх далікатэсаў. Мне таксама хацелася прымкнуць вока на рэчаіснасць і пакарыстацца літаратурным шаблонам, найперш, каб аддаць эмацыйны паклон рускаму класіку.



Возера Свіцязь



Будынак манастыра



Айцец Павел

Свіцязская трапеза пачалася з малітвы. Як замежнага журналіста, пасадзілі мяне ў цэнтры, насупраць айца благачыннага. На стале, ад краю да краю, выстойвалі талеркі з прысмакамі і смакавіта пададзенай ядой. Праўда, тут не было асятроў, вугроў і ласосяў, а толькі смажаная азёрная рыбка. На пачатку ўсе пакаштавалі пікантны суп «харчо». Далікатэс, у вегетарыянскім варыянце са шматкамі сушанай рыбы, згатаваў госць манастыра, круты мужык у рыбацкай камізэльцы. Калі ў яго бок паліўся паток пахвал, ён малайцавата махнуў рукой і заявіў: «Падглядзеў, як гатавалі ў Абхазії!». Гэта быў тып непаседлівага чалавека, які скалясіў цэлы Савецкі Саюз разам з яго сатэлітамі. Што рабіў на Каўказе? Замест канкрэтнага адказу госць заявіў: «Абхазія, гэта быў рай на зямлі, пакуль Пуцін не разваліў!».

У сумнай рэфлексіі адчуваўся намёк у бок зруйнаванага Данбаса, у знак зразумення застольнікі моўчкі паківалі галавой...

Пасля каўказскага супу прыйшла чарга на смажаныя яйкі. Іх спажывалі з намятай бульбай або грачанай кашай. Далей кожны сам выбіраў страву. Частка паслушнікаў у спеху глытала смачныя закускі, жуючы і мурлыкаючы ад роскашы і захаплення. Айцец благачынны што і раз граміў зрокам неўтаймаваных абжораў. Яны аднак ведалі, што ў назначаны на абед час не паспеюць пакаштаваць усіх выстаўленых на стол смакоццяў. Апетыт падбівала свежае паветра і смакавітыя пахі простых страў. Смажанае яйка тут смакавала больш чым смажанае яйка. Пухкая бульба здавалася райскім далікатэсам. Я пакаштавала салацік з зялёнай цыбулі і радыскі са смятанай, марынаваны памідор і смажаную рыбку проста з возера. На кракеты з рыбай, грыбныя салаты, бліны з сырам і сочывам, салаты з маянэзам ужо не хапіла ні месца, ні часу. На канец трэба было ўсё закусіць і запіць. Да кубачка гарбаты я атрымала скібку вясельнага каравая з сярэбранай глазурай. Адкуль каравай у манастыры? Дзень раней у парафіі звянчалі маладых. Згодна мясцовай традыцыі, маладыя заўсёды адзін каравай пакідаюць у царкве.

У пэўны момант айцец Павел даў знак рукой. Усе падарваліся на ногі і энергічна згаварылі малітву: «Благодарим тя Христе Боже наш...».

Суп «харчо» падалі на вячэру і на наступны дзень на сняданак. Страву спажывалі са смакам і хвалілі з падобным энтузіязмам.

* * *

Мяне ў сваю чаргу безупынна здзіўлялі свіцязска-падляшскія сувязі. Ідэя ўзнікнення манастыра нарадзілася з летнікаў для дзяцей, якія ладзілі пры парафіі ў 1999-2004 гадах. Гэта быў першы праваслаўны летнік ва Украіне. Прыклад прыйшоў з праваслаўнага асяроддзя ў Польшчы, якое ўжо ладзіла падобныя лагеры.

Пасля абеду айцец Павел паказаў мне манастыр. У новы будынак манахі перабраліся паўтара года таму. За гэты час паспелі збудаваць дзве ўнутраныя царквы. Мы спачатку падняліся на другі паверх, дзе працуе царква ў гонар Іконы Божай Маці «Спарыцельніцы хлябоў». У ёй служаць ранішнія набажэнствы для манахаў. Сцены царквы прыаздоблены блакітна-зялёна-залатымі фрэскамі на біблейскія тэмы.

У ніжняй царкве св. Аляксея Чалавека Божага можна прыкланіцца да святыняў з многіх закуткаў Зямлі. Тут, між іншым, мошчы святых мучанікаў холмскіх і падляшскіх:

— У нас добрыя кантакты з люблінскім епіскапам Авелем, — адзначае айцец благачыны. Уладыка Авель час ад часу прыязджае ў Свіцязь.

— А вы былі ў Польшчы? — пытаю ў айца Паўла.

— Я сам не быў, але наш архімандрыт ездзіў. Далёка, ажно на поўнач, у Супрасль.

Мне самой з палеска-азёрнай перспектывы родная Беласточчына паказалася паўночнай краінай. Усё з-за межаў, якія прымушаюць дабірацца праз назначаныя пагранзаставы, з-за якіх дарога становіцца ўдвая даўжэйшай. Свіцязь — натуральны працяг Падляшша. Мясціна знаходзіцца ў блізкім суседстве па простай лініі ад Уладавы. Найбліжэй туды праз Берасце, усяго тры-чатыры гадзіны язды на машыне.

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960